

Буслявыя лапы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Вясёлых Святаў!

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 16 (3284) Год LXIV Беласток, 21 красавіка 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

*З Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім, арцыбіскупам **Тадэвушам Кандрусевічам** на пярэдадні каталіцкага Вялікадня паразмаўлялі Яўген Вапа і Юрка Ляшчынскі.*

# Няма чаго баяцца крыжа

**«Ніва»: — Ваша Эксцэленцыя, наша першае пытанне да Вас можа са святамі не звязана, а вельмі такая набалелая праблема — гэта Курапаты. Цяпер пачалі крыжы зносіць. Гэта варварскі ўчынак, які робяць камунальныя службы ў гэтым месцы. Вы выступілі з лістом.**

**Тадэвуш Кандрусевіч:** — Я выступіў з лістом у гэтай справе. Я знаходжуся ў Беластоку, яшчэ пасля цяжкай аперацыі, на лячэнні, аднак, вядома, сачу за падзеямі, якія адбываюцца ў Беларусі. Я вельмі моцна ўзрушаны, што здымаюць крыжы. Напэўна, многа ёсць апанентаў, асвечаны яны ці не асвечаны. Не ў гэтым справа. Крыж застаецца крыжам. Нават калі яго намалюю на сцяне, а хтосьці яго замалюе, ці гэтак далей, а тым больш у тым месцы, дзе так многа людзей загінула. Тым больш што гэта адбылося падчас Вялікага посту. Я паважаю Праваслаўную царкву, у іх таксама спецыяльная нядзеля, тыдзень спецыяльны Праслаўлення Крыжа... Напэўна, там трэба рабіць парадак. Трэба там многа зрабіць, усё трэба там уладкаваць. Гэта трэба было зрабіць даўным-даўно, але не зроблена. Так ёсць, як ёсць сёння. Можа, трэба і было гэтыя крыжы часова зняць, потым паставіць. Таксама здымаем крыжы і ў касцёле, і ў царкве, і з вежаў касцёла здымаем — бо трэба яго рамантаваць. Час прыходзіць, час сваё робіць, але перад гэтым кажам людзям, што трэба. У нас вельмі добрае супрацоўніцтва з музеямі, часам музеі просяць іконы, абразы. «Што, раптам прапаў абраз з касцёла?» Што мне заўтра людзі скажуць? Але калі ксёндз аб'ясніць людзям, што гэта даецца ў музей, бо будзе выстава — гэта таксама евангелізацыя. Зусім нядаўна была ў Гістарычным музеі вельмі вялікая выстава каталіцкіх абразоў. Там столькі людзей было на адкрыцці, доўгі час была евангелізацыя. Тым больш, што людзі даведваюцца пра гэты касцёл, пра гэту мясціну... Гэта для ўсіх бакоў вельмі добра. І сёння няма праблемы, калі мы скажам людзям, што такая справа, што гэты абраз не будзе ў нас у касцёле, бо будзе ён у рэстаўрацыі, калі будзе. Трэба рэстаўрацыю рабіць паўсюль, і ў Ватыкане, людзі прызвычаіліся.

І тут павінна было, я ў гэтым упэўнены, склікаць прадстаўнікоў усіх канфесій, не будзем глядзець — католік, праваслаўны, габрэй, вернуючы, няверуючы — і сказаць, што робім, каб не было таго сацыяльнага выбуху. Як гэта зрабіць? І мы бы аб'яснілі, што такая справа, там трэба ўпарадкаваць. Усе ведаюць, — трэба плот паставіць, дык трэба. Не ўсюды тэхніка даедзе. Вось, здымаюцца крыжы, а потым паставяць іх назад. Я ўпэўнены, што не было б абсалютна ніякага шуму, ніякай праблемы. На жаль, такая праблема была. Вядома, я не мог маўчаць, бо знявага крыжа адбываецца, тым больш у такім месцы і ў такі час! Я не ведаю, хто такія каманды дае. Акурат у такі час — у Вялікі пост! Гэта проста не укладваецца ў галаве! А можна ўсё было зрабіць цывілізавана, без ніякіх праблем. Не ведаю, як вярнуся, ці нейкія размовы



Фота Уршулі ШУБЗДЫ

будуць з уладамі. Гэту праблему трэба вырашаць. Гэта непатрэбна нікому — ні для дзяржавы, ні для грамадства, ні для Касцёла і для Царквы.

**«Ніва»: — Вы, Эмінэнцыя, родам з такога памежнага рэгіёна, дзе Беласточчына і Гарадзеншчына была адной прасторай, дзе крыжы былі ў гэтым краявідзе ад стагоддзяў, дзе маем крыж каталіцкі, крыж праваслаўны, дзе маем татарскую мячэць, і гэта суіснавала. Ці з Вашага дзяцінства, расказаў Вашай памяці дзядоў, бацькоў, ці нават пасля Другой сусветнай вайны, калі маем дачыненне з Савецкай Беларуссю, дзе Вы нарадзіліся, — ці ў вас было здыманне крыжоў, канкрэтна ў Адэльску, у ваколіцы? Ці людзі баранілі крыжа ў савецкія часы?**

**Тадэвуш Кандрусевіч: —** Я нарадзіўся ў вёсцы Адэльск Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці, там жылі адны католікі. Там такога не было, аднак калі дзесьці стаяў крыж у полі, такіх выпадкаў не было многа, але былі, у той час — я ж чытаю газеты, езджу і чую як што дзе ёсць і гэтак далей... У той жа час і Вітальдава фара была збурана ў Гродне. Я вучыўся ў дзясятым класе, жыў, як у нас кажуць, за Нёманам у Гродне. Калі я быў у апошнім класе, бацькі пераехалі ў Гродна, у Францішканскую парафію, з Адэльска. У нас была праграма дзесяцігодкі, пераходзілі на адзінаццацігодку, і я шукаў школы, дзе была праграма дзесяцігодкі. Трэба было ездзіць за Нёман, на другі бок, недалёка ад Фарнага касцёла, ад катэдры, была 7-я школа, дзе мелася праграма дзесяцігодкі. Трэба было праязджаць праз Савецкую плошчу. Усе гаварылі, што гэты касцёл хочуць збурыць. Да сённяшняга дня мне ў вушах гучыць голас чалавека — аўтобус стаяў на Савецкай плошчы, яшчэ цёмна было, бо ўжо быў лістапад, народу многа было, людзі ехалі да работы, як нейкі чалавек кажа: «Всё, касцёла нет». Я толькі трошкі, трошкі ўбачыў асфальт, сівага колеру, асфальт цёмны, снегу мала было... А пасля школы пайшоў туды. Гэта таксама знішчэнне Крыжа. Крыжы ламалі, можа не ў самым Адэльску. Касцёл заўсёды быў адчынены, хаця ксяндза доўга не было.

Але крыжы ламалі ў многіх месцах. Калі вы паедзеце, напрыклад, у горад Свір, там каля касцёла стаіць такі крыж, ён выгнуты. Паставілі яго. Калі нам на пачатку дзевяностых гадоў аддалі гэты касцёл, пачаўся рамонт касцёла, і нехта з вернікаў сказаў, што тут закапаны крыж. Адкапалі гэты крыж. Гэты крыж скінулі зверху. Ён упаў, скруціўся. Ксёндз сказаў, што зробім новы, а гэты пакінем, каб людзі бачылі, што гэта зрабілі таксама людзі: паднялі руку супраць Крыжа! Ён скручаны, але паказвае ўверх.

З гэтым паказваннем уверх мне ўспамінаецца гісторыя з Масквы, калі яшчэ ў 1991 годзе папа паслаў мяне ў Маскву, там быў толькі адзін касцёл святога Людвіка. Я быў з еўхарыстыяй. Прыходзіць моладзь, студэнты. «Мы, студэнты ўніверсітэта, гісторыю вывучаем, але кожны новы кіраўнік — новая гісторыя, мы не можам зразумець. А ў той сам час бачым, колькі цэркваў у Маскве, на вежах іх крыжы, можа пахіліліся, бо восемдзесят гадоў іх не чапалі, але яны ўверх паказваюць». Чытайце Евангелле, слухайце Бога, тая гісторыя нашага збаўлення — яна не змяняецца. Той крыж, скручаны, паказвае ўверх... На жаль, тыя крыжы, якія знялі ў Курапатах — яны таксама паказваюць уверх.

На крыж трэба глядзець як на знак Збаўлення, знак Надзеі. З чаго складаецца крыж — з дзвюх частак, гарызантальнай і вертыкальнай. Гарызантальная прадстаўляе чалавека, грэшнага чалавека, і калі няма вертыкальнай — ну што, закон нішто, надзеі ніякай, падае ўніз. Падае ў грахоўнае балота, застанецца там ляжаць. Патрэбная тая вертыкальная. Крыж прыпамінае кожнаму чалавеку, што няма чаго баяцца крыжа...

**«Ніва»: — Жыць з крыжам, быць ва ўладаранні крыжа і яго магутнасці, ці ён у полі, ці на касцёле або царкве, жыць з крыжам і побач крыжа, прывітацца словам Божым, адыходзіць з ім у апошнюю дарогу... У той прасторы, у якой вы нарадзіліся ў Адэльску — з крыжам і верай Вы былі ад дзяцінства. Якую ролю адыгрывае сям'я — у часы такога бязбожнага наступу, які меў тады назву «камунізм», зараз прымае іншыя формы... Як Ваша сям'я бараніла тое СВАЁ? Якія ў Вас практычныя парады людзям да сённяшняй паралелі?**

**Тадэвуш Кандрусевіч:** — Дзякуй за гэтае пытанне. Яно вельмі, вельмі актуальнае. Гэты год у пастырскай праграме Каталіцкага касцёла ў Беларусі гэта год сям'і — сям'я як крыніца надзеі для моладзі. Чаму мы ўзялі такую тэму? У мінулым годзе быў сінод прысвечаны моладзі, а таксам быў сусветны кангрэс сям'і ў Ірландыі. Чалавек нараджаецца ў сям'і, у сям'і выхоўваецца — сям'я гэта першая школа выхавання, чалавечага выхавання і хрысціянскага выхавання. У маёй сям'і, і не толькі ў маёй сям'і, а ў іншых сем'ях у Адэльску і іншых вёсках, якія былі ў наваколлі, касцёл быў важны. Я ўжо казаў, касцёл быў адчынены ўвесь час, аднак святара доўгі час не было. Тым не менш, кожнае свята, кожную нядзелю

працяг ☞ 9



# Апошні пункт адліку

„Бываюць дні, калі апусціш рукі, няма ні слоў, ні музыкі, ні сіл". Курапацкі крыжалом, здзейснены ўладамі ў перадвелікодны перыяд каля самай сталіцы Беларусі за два заходы, нанёс грамадзянскай супольнасці магутны псіхалагічны ўдар, вытрымаць які будзе надзвычай цяжка. 4 красавіка, якраз ва ўгодкі нацыянальнага героя, узорнага айчыннага дзяржаўніка Льва Сапегі, было выдрана з зямлі каля сямідзесяці драўляных крыжоў. Грамадства ў цэлым праглынула гэта — як рэакцыя на жудаснае маральнае злачынства на малебен у Курапаты з двухмільённага Мінска прыйшло ці прыехала толькі 200 чалавек. Такія масавыя абыякавасць і страх тых, хто не прыйшоў, выклікалі наступны крок. 13 красавіка на ленінска-лукашэнкаўскім суботніку мясцовыя хунвейбіны знішчылі ўжо дзясяткі металёвых крыжоў вакол кальцавой дарогі.

Вельмі кволая рэакцыя і прадстаўнікоў рэлігійных супольнасцей. Толькі мітрапаліт Рымска-каталіцкага касцёла арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч зрабіў некалькі выразных заклікаў да ўлады. З асуджэннем ягэ антыхрысціянскіх дзеянняў выступілі адзінкавыя праваслаўныя святары. Іх галоўны іерарх, прысланы ў Беларусь з Крамля, канешне, прамаўчаў. Не выказаліся і з-за мяжы — ні каталіцкая апостальская сталіца, ні праваслаўны Канстанцінопаль.

Беларуская зямля перажыла за апошнія стагоддзі мноства розных акупацый розных агрэсіўных рэжымаў рознай ступені жорсткасці. Але, бадай, што ніколі яшчэ не было такога масавага маўклівага канфармізму, такога прыстасавання, такой агромністай ступені калабарацыі і згодніцтва з антычалавечым рэжымам. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова глянуць на спісы наменклатурнага ўладнага чынавенства, на прозвішчы тых жа нішчыцеляў народнага мемарыяла — спрэс беларускія, польскія, яўрэйскія, татарскія прозвішчы. Усе мясцовыя, усе народжаныя на гэтай зямлі, усе вырадкі і манкурты, гатовыя нішчыць нацыянальныя традыцыі народаў, якія спакон вякоў насяляюць гэтую шматпакутную і за нешта выклятую зямлю.

І што рабіць далей?! Перад многімі людзьмі ў гэтыя дні паўсталі выразныя пытанні — як імгненныя на сёння, так і стратэгічныя на бліжэйшую будучыню. Як рэагаваць на гэткі сатанінскі вандалізм улады: выходзіць на плошчу, пратэставаць, маліцца, праклінаць, хавацца ад гэтага зла, з'язджаць адсюль? Як жыць далей: карміць і выпраўляць дзяцей у школу, варыць баршчы, хадзіць на працу, выпіваць з сябрамі, удзельнічаць у „выбарах", назіраць за гэтым ганебным працэсам збоку, праводзіць асветніцкую працу, „забіць" на ўсё? Думаецца, што пераважная бальшыня пакуль не знайшла для сябе адказу.

У бліжэйшай перспектыве цяжка ацаніць і сказаць, што здарылася. Ні то гэта агонія антыбеларускага рэжыму і яго галоўнага праваднік, ні то зусім наадварот — палітычная смерць дзяржавы, якая так і не здолела сфармавацца як самастойная, застаўшыся марыянетачнай структурай імперскай Масквы. Выразна ясна пакуль адно — у сённяшняй Беларусі адбылася канчатковая фактычная рэабілітацыя сталінізму і яго злачынстваў супраць чалавечнасці.

За 25 гадоў кіравання Лукашэнкі вылучаюцца некалькі знакавых пунктаў адліку. Першы ў траўні 1995 года, калі ў выніку антыканстытуцыйнага рэферэндуму ўсталяваліся здзек над дзяржаўнасцю беларускай мовы і фактычная забарона нацыянальнай сімволікі. Другі ў 1999 годзе, калі бясследна зніклі вядомыя апазіцыянеры: Юры Захаранка, былы міністр унутраных спраў, Віктар Ганчар, былы парламентарый і старшыня Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, а таксама бізнесовец Анатоль Красоўскі. Так званае следства, канешне, нічога не выявіла. Трэці ў снежні 2010 года, калі жорстка была разагнаная Плошча і праведзены найбольш масавыя рэпрэсіі — тады ж выразна стала зразумела, што памяняць уладу мірна ў выніку выбараў ужо не ўдасца. І вось „чорны красавік" 2019 года, калі растаптаная памяць і здзейснены публічны маштабны здзек і з нявінна забітых, і з жывых, якія іх ушаноўваюць. У Беларусі, адзінай у Еўропе дзяржаве, існуе смяротнае пакаранне для забойцаў іншых людзей. Засталося заканадаўча ўвесці яго яшчэ для „врагов народа", „изменников Родины", „шпионов заграничных разведок". І тады працэс „асаблівага шляху развіцця" будзе афармлены канчаткова.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Ваенныя прысмакі

Існуе штосьці ў чалавеку жахлівае, незразумелае па-рэптыльнаму — гэта гіперактыўная агрэсія, схільваючая яго да войнаў. Не так, аднак, да войнаў паміж народамі ці краінамі за жыццёвую прастору ці прыродныя рэсурсы, як да таталітарных войнаў, накіраваных на поўнае знішчэнне праціўніка або яго прыгнёту, які прывядзе да паступовай яго культурнай і генетычнай ліквідацыі. Нямецкія нацысты са сваімі канцэпцыямі таталітарнай вайны і перавагі расы паноў не былі іх вынаходнікамі. Яны былі рацыяналізатарамі гэтых ідэй. Таму што вайны ніхто не прыдумаў. Людзі ваявалі і, нягледзячы на іх вялікія заклікі за мір, будуць працягваць войны. Гэта ёсць у чалавечай прыродзе. Прынамсі такую карціну чалавека напісала гісторыя.

Найстарэйшым задакументаваным збройным канфліктам у гісторыі чалавецтва, які дасягае часу першай чалавечай цывілізацыі, была вайна, якую вёў у Шумерыі ўладар Кіш, Энмебарагесі, каля 2700 г. да нашай эры супраць горада-дзяржавы Элам. Пасля вайна гнала вайну. Паводле ацэнак, агульны стан міру з пачатку гісторыі да сённяшняга дня доўжыўся ўсяго 300 гадоў. На практыцы гэта азначае, што вайна праходзіла на Зямлі амаль увесь час. Па словах польскага гісторыка Томаша Касьмідэра, з моманту стварэння самай ранняй шумерскай цывілізацыі да сучаснасці, людзі біліся паміж сабой у пятнаццаці тысячах войнаў, што дае ў сярэднім тры ў год! Той жа гісторык таксама падлічыў, што толькі ў наш час, у перыяд ад падзення Напалеона да распаду Савецкага Саюза і роспуску Варшаўскай дамовы было ў свеце каля 350 войнаў, па два ў год сур'ёзныя канфлікты, якія забралі жыцці каля 3,5 млрд. чалавек. Гэта палова сённяшняй чалавечай папуляцыі на Зямлі. Толькі ў гэтых адносінах, параўноўванне людзей да рэптылій можа быць, як мне здаецца, вельмі памылковым.

У той час як рэптыліі не маюць ніякіх тармазоў, каб у міжвідавой ці нават унутрывідавой канкурэнцыі забіць і зжэрці аднаго праціўніка, не выяўляюць ніякай схільнасці да жорсткасці, ні да масавых забойстваў. Гэтая рыса, як уяўляецца, па-за гарызонтам іх відавых тэндэнцый. Агрэсію, у якую забяспечыла іх Прырода, выкарыстоўвалі выключна або для самаабароны ці для здабыцця ежы. Я не ведаў і не чуў пра насякомых, рэптылій і млекакормячых, акрамя самога чалавека, каб распялі нейкую жывую істоту. Катаванні на Зямлі вынайшлі, удасканалілі і да гэтага часу выкарыстоўваюць з несумненным задавальненнем людзі. Толькі чалавек з поўным веданнем свайго ўчынку, і часта для ўнутранага задавальнення, наўмысна прычыняе пакуты іншым істотам, неабавязкова іншым людзям. Многія сабакі літаральна ўкрыжаваны. Колькі катоў сталі жывымі факеламі! А колькі нявінным мушкам дзеткі паабрывалі крыльцы для свайго задавальнення?

Калі маладыя драпежнікі гуляюць з паддушанай маці ахвярай, то толькі для таго, каб падвучыцца ў паспяховым паляванні дзеля выжывання. Калектыўнае ўяўленне чалавечага роду ўжо даўно перавысіла яго эвалюцыйныя абмежаванні. Мы забіваем, таму што мы любім забіваць. Катуем, таму што радуе нас пакута іншага. І гэта не тлумачыць агрэсіі, уласцівай чалавечай прыродзе ці яе жывёльнай частцы. Можа быць, „віну" за іх бязлітаснасць нясе парадаксальна чалавечае цывілізаванне, якое было сарганізаванае першапачаткова на гутарковым, а затым пісьмовым кодзе памяці, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне — і не толькі на ўзроўні чыстай інфармацыі, але і траўм, крыўдаў, страхаў і фобій, закранаючых кожнае пакаленне і народ. Жывёлы не валодаюць гэтай здольнасцю. Калі б свінні-кормнікі калі-небудзь аваладалі гэтым мастацтвам, чалавецтва чакала б самая жорсткая з войнаў. Вайна за выжыванне чалавечага роду.

Узровень агрэсіі сярод сучасных народаў застаецца да гэтага часу на крытычным узроўні, ледзь не перавышае стану адкрытай вайны. І часта гэты ўзровень перавышае. Войны часта ініцыююць дзяржавы гістарычна абцяжараныя многімі гвалтоўнымі канфліктамі. Вайна, кажуць, упісана ў гісторыю кожнай нацыі і яе генатып, асацыюецца з няўмольнай чалавечай памяццю, якой паўтаральным узорам з'яўляецца помста. Больш ці менш рацыяналізаваная. А што саладзей за помсту?

**Міраслаў ГРЫКА**




Сваімі вачыма

# Сумленне народа

Няма спакою ў Курапатах. Цішэй над гэтымі магіламі, — просяць сэрцы, душы і малітвы звычайных людзей: беларусаў, рускіх, палякаў, жыдоў, татараў — ураджэнцаў зямлі беларускай, пражываючых на сваёй Бацькаўшчыне ад стагоддзяў. Пра вечную памяць для нявінна закатаваных у падмінскім лесе моляцца па-за межамі Беларусі. Не такія сны аб Беларусі мелі на ўвазе народныя паэты краіны, праслаўляючы сваю Радзіму. Перад вачыма чарговы раз аўтаматычна ўзнікаюць вобразы са «Сцяны» Васіля Быкава, якія не дазваляюць беларускаму сумленню пагадзіцца са здзекамі камуністычнай сістэмы. Ейныя нашчадкі любуюцца прагульвацца ў парадных энкавэдысцкіх мундзірах, праслаўляць і адклікацца да сталінскіх карнікаў. Мабыць таму напярэдадні каталіцкай Пальмавай нядзелі ў Курапатах зноў ваююць з крыжамі. Жах!

Тыдзень назад у гэтым месцы пісалі мы, што невядомы нам лёс арыштаванага сёмага красавіка на выхадзе са свайго дома, ініцыятара малітвы за Беларусь Міколы Статкевіча. Менавіта за гэты заклік суд Цэнтральнага раёна Менска прысудзіў апазіцыйнага палітыка Мікалая Статкевіча на 15 сутак. Суд над Статкевічам доўжыўся 5 хвілін. У тым жа часе за тое ж самае на 13 сутак прысуджаны актывіст Максім Вінярскі — за заклік да несанкцыянаванай акцыі. Сваё робіць і Зміцер Дашкевіч — легендарны абаронца Курапатаў і былы палітычны вязень. Дзякуючы яго напорыстасці ў Курапатах устаноўлены дзясяткі новых крыжоў. За гэта караюць яго таксама штрафамі і арыштамі.

Нязломны абаронца Курапатаў Павел Севярынец чарговы раз асуджаны на 15 сутак арышту. Быў ён затрыманы раніцай 5 красавіка ў Курапатах, дзе напярэдадні паводле загаду ўлад знеслі 70 драўляных крыжоў, устаноўленых грамадскімі актывістамі летам мінулага года. Жанчына-гераіня — 72-гадовая актывістка апазіцыі Ніна Багінская ў чарговы раз за абарону крыжоў у Курапатах аштрафаваная на 50 базавых велічынь (1 275 рублёў, памножце разы два і атрымаеце суму да зарплаты ў залатоўках). Ніна Багінская з'явілася ў суд у паліто з лозунгам «Свабода народу!» і нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам. Пра гэтую незвычайна сціплую жанчыну і ейнае нацыянальнае змаганне можаце больш даведацца з рэпартажу Алесі Адамчук, які змешчаны на старонцы Радыё Рацыя (https://www.racyja.com/repartaz-rr/zhanchyna-legenda-repartazh-alesi-ad/). Вось словы ўступу пра гэтую жанчыну: «Без гэтай маленькай, худзенькай, прыгожай жанчыны не абыходзіцца ў Менску ніводная акцыя. Ніна Багінская стала чалавекам-легендай у змаганні за свабоду і дэмакратыю. Яе празвалі „чалавекам-сцягам" за любоў да бел-чырвона-белага сцягу. Яна не выпускае з рук на акцыях вялікае бел-чырвона-белае палотнішча, за што яе шмат разоў каралі. Актывістка руху Салідарнасці „Разам" Ніна Багінская смела выходзіць не толькі на вулічных акцыі. Ужо восем месяцаў рэгулярна яе можна пабачыць на курапацкай варце. Нягледзячы на сталы ўзрост, спадарыня Ніна абувае валёнкі, апранае цёплае паліто з надпісам „Свабоду народу" і едзе адстаяць шмат гадзін на холадзе ля ганебнай рэстарацыі „Поедем поедим"». Нізкі наш паклон і пашана звычайна-незвычайным беларускам.

Калі гаварыць пра жанчыны і іхняе ахвяраванне, то абавязкова трэба ўзгадаць Вольгу Мікалайчык. Таленавітая тэледакументалістка поўнасцю прысвяціла сябе абараняць беларускі гонар. Гонар народа, хай гучыць мабыць гэта на такой высокай ноце, але тое, што яна перажыла апошнімі гадамі, заслугоўвае проста на словы найбольшай пашаны і павагі. На ейную стойкасць і вытрыманасць не здольныя многія, якія толькі словамі патрапяць даваць парады наконт формаў актыўнага супраціў. Не пералічыць мне ў гэтым месцы ўсіх абаронцаў Курапатаў, якія гадамі з'яўляюцца сумленнем нацыі. Калі б не Вы, былі б мы апаганенымі ўжо даўно. Дзякуем.

**Яўген ВАПА**

# Буславыя лапы — вяртанне да традыцыі



Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях з 23 сакавіка па 7 красавіка арганізаваў у сваіх памяшканнях і ў святліцы ў Залешанах «Фестываль буславай лапы». Было гэта вяртанне да народнай традыцыі выпякання буславых лап, якія ў нас захоўваліся здаўна і пачаліся зводзіцца ў мінулым стагоддзі. У памяшканнях асяродка культуры ў Кляшчэлях і ў святліцы ў Залешанах у васьмі майстар-класах па падрыхтоўцы цеста, выконванні буславых лап і іх выпечцы прынялі ўдзел арганізаваныя групы вучняў са школ у Кляшчэлях, Чаромсе і Гайнаўцы. «Фестываль буславай лапы» завяршыла адкрытая сустрэча ў святліцы ў Залешанах. Прысутнічалі ў ёй бацькі з дзеткамі, якія прыбылі сюды з розных мясцовасцей Кляшчэлеўскай гміны і асобы з суседніх гмін, а таксама старэйшыя жыхары Залешан і Тапаркоў.

У дзень Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы каля святліцы стаяла многа аўтамабіляў. У святліцы было многа вучняў і бацькоў з маленькімі дзеткамі. Перад пачаткам святочнай сустрэчы дайшлі таксама старэйшыя асобы з Залешан і Тапаркоў. Сабраных прывіталі інструктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Яўгенія Казімерук і Ніна Леанчук з Залешан, якая назвала сябе «клюбовай», паколькі наглядае за вясковай святліцай.

— За папярэднімі майстар-класамі ў рамках «Фестывалю буславай лапы» наглядала наша дырэктар Малгажата Клімовіч. Сёння яе няма з намі, паколькі прымае ўдзел у майстар-класах у сталіцы Беларусі — Мінску. Буславыя лапы мы пачалі выпякаць ужо з 23 сакавіка. У майстар-класах у гмінным асяродку прынялі ўдзел 7 груп са школ у Кляшчэлях і Чаромсе. Вучням Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы майстар-класы па выпечцы буславых лап адбыліся ў Залешанах. Яны знаёміліся тут з нашымі традыцыямі, якія спадарожнічаюць святкаванню Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы, наведалі Манаскі жаночы дом святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах і Мужчынскі манастыр святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, — паведаміла Яўгенія Казімерук. — Тут ладзім адкрытыя на ўсіх жыхароў нашай гміны майстар-класы, на якія прыбылі дзеткі і бацькі. Цешыць нас, што сабралася іх так многа.

Сабраныя ў святліцы пазнаёміліся з традыцыямі святкавання 7 красавіка Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы, якое супадае з прыходам вясны і прылётам буслоў. Паколькі сустрэча ў Залешанах адбылася ў святочны дзень, яе арганізатары распавядалі пра гісторыю і само святкаванне Дабравешчання, калі пасля вяртання з царквы бацькі частавалі сямейнікаў спечанымі дзень раней буславымі лапамі. Паабедаўшы, дзеткі беглі з буславымі лапамі да сваіх сяброў, а пасля пад буслянкі, дзе, падымаючы ўверх буславыя лапы і звяртаючыся да буслоў, гаварылі прымаўкі характэрныя для народнага вітання вясны.

— Сёння мы святкуем Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы, калі Архангел Гаўрыіл абвясціў Багародзіцы, што народзіць Хрыста Збавіцеля і гэта дало пачатак нашай дарозе да збаўлення. Гэта вельмі радаснае свята, на час якога аблягчаўся пост і нашы продкі пяклі буславыя лапы. Народныя традыцыі вяшчання аб прыходзе вясны былі спалучаны са святам Дабравешчання. Мы будзем знаёміцца з народнымі традыцыямі. Напярэдадні свята жанчыны пяклі буславыя лапы, з якімі дзеткі беглі вітаць буслоў — прадвеснікаў прыходу вясны, — стала распавядаць сабраным Яўгенія Казімерук пра сувязі паміж святкаваннем Дабравешчання і народнымі традыцыямі.

Ніна Леанчук з Залешан паказала як рыхтуецца цеста для буславых лап. Цеста было падзелена на кавалкі і малодшыя дзеткі з бацькамі, а старэйшыя самастойна абсыпалі яго мукой і фармавалі буславыя лапы. Пазней пяклі іх у духоўцы.



Дашкольнікі і вучні былі рады, што навучыліся выконваць буславыя лапы. Калі тыя пякліся, дзетак запрасілі гуляць у даўнія гульні на пляцоўцы пры святліцы. Спечаных буславых лап хапіла ўсім удзельнікам майстар-класаў. Былі яны рады, што атрымаліся так смачныя вырабы.

— Майстар-класы па выконванні буславых лап вельмі цікавыя. Бачым, што дзеткі вельмі ангажаваліся, каб з цеста выканаць іх вельмі акуратна, — заявіла адна з мам.

— Важна, што дзеткі знаёмімся з традыцыяй, якую захоўвалі яшчэ нашы бабулі. Тут адбываецца таксама інтэграцыя маладых бацькоў, — сказала іншая мама.

— Нам спадабалася выконванне буславых лап, — заявіла вучаніца, а яе сяброўка дабавіла, што цікавым быў таксама расказ пра свята Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы.

— У Тапарках у пасляваенны перыяд было многа дзетак і моладзі. Народжаных у 1949 годзе было нас ажно дзясяцера. Святкаванне Дабравешчання ў нашай кампаніі было радасным. Мая мама пякла вялікія пірагі і буславыя лапы напярэдадні свята. Елі мы іх ужо ў святочны дзень. Рабіла іх поснымі, без цукру і яек, але яны былі вельмі смачнымі. Елі мы лапы дома і бралі з сабой, калі спатыкаліся ў кампаніі. Бегалі тады да буславых гнёздаў і, уздымаючы лапы ўгару, віталі мы вясну. Гаварылі розныя прымаўкі. Мне запамяталася жартоўная: «Бусел, бусел клёкотун, злапаў жабу за коўтун. Жаба ёго кулаком, а вон пырхнуў молоком», — стаў распавядаць Віталіс Соха з Тапаркоў, член калектыву «Арляне». — Зараз у нашых вёсках жыве вельмі мала дзетак, але добра, што яны тут сабраліся. Бачу, што прыбыло на майстар-класы многа дзетак з Кляшчэляў. Вельмі добра, што бацькі прывозяць іх знаёміць з нашымі традыцыямі, якія майму пакаленню былі такія дарагія. У мяне ў памяці стаяць тыя вобразы, калі мы, хлапчукі, гулялі. Я вельмі рады, што арганізуюцца сустрэчы, якія знаёмяць дзетак з жыццём у мінулым, з нашымі гульнямі і традыцыямі.

Жанчына, народжаная ў час вайны, заявіла, што падчас святкавання разам з сяброўкамі таксама бегалі з буславымі лапамі да буслянак і там крычалі: «Бусёл, бусёл на лапы, дай Божэ на другі рок дожджаты». Дабавіла, што лапы пякліся з чатырма пальцамі, паколькі верылі, што такія лапы ў буслоў. Яўгенія Казімерук паінфармавала, што ў час Вялікага посту Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях арганізаваў таксама вучобу посным песням і будзе ладзіць майстар-класы па маляванні велікодных яек і выконванні велікодных аздабленняў.

— Ідзя вяртання да нашых традыцый, якую гарадскі асяродак культуры стаў рэалізаваць у розных мясцовасцях Кляшчэлеўскай гміны, патрэбная і выклікае вялікую зацікаўленасць у нашых жыхароў. Мы тры гады таму арганізавалі «Этнаграфічны веласіпедны шлях Кляшчэлеўскай гміны» па месцах спалучаных з заняткамі нашых продкаў у мінулым і гэта спрацавала, — заявіла Яўгенія Казімерук і патлумачыла, што адным з прыпынкаў на гэтым шляху з'яўляецца Дабрывада, дзе штогод арганізуецца выпяканне каравая згодна мясцовым традыцыям і ладзяцца там яшчэ майстар-класы па спяванні даўніх песень. Чарговым прыпынкам на веласіпеднай дарозе з'яўляюцца Тапаркі, дзе кожны год летам публіцы паказваюць жніво з мінулага, калі збожжа жалі сярпамі, касілі косамі, малацілі цапамі. Кульмінацыяй жніўных сустрэч ёсць абрад «Перапяліцы». Трэцім прыпынкам мелі быць Сакі, дзе мелі выпякацца буславыя лапы, але паколькі святліца ў гэтай вёсцы яшчэ неадрамантаваная, гэты абрад быў перанесены ў Залешаны. Паколькі ператварыўся ён у фестываль, стаў арганізавацца ў будынку Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях. Там спаткаліся арганізаваныя групы, а святочная сустрэча ў святліцы ў Залешанах паказала, што маладыя асобы ахвотна прыязджалі, каб пазнаёміцца са сваімі традыцыямі. Яшчэ да майстар-класаў па выпечцы буславых лап маладыя асобы падыходзілі да крыжоў, распалажаных наўскос ад вясковай святліцы, які ўвекавечваюць загінуўшых у час пацыфікацыі Залешан у 1946 годзе атрадам Рамуальда Райса, псеўданім «Буры». Былі і бацькі, якія з дзеткамі падышлі пад Манаскі жаночы дом у канцы Залешан. Збудаваная для часовага карыстання драўляная царква пераносіцца на другое месца. Там будзе ўзведзены храм большых памераў.

— Зараз, калі прыязджаюць паломнікі, моляцца ў мураваным манаскім доме, дзе ёсць выдзелена часоўня. Будаваная для часовага карыстання пабольшшаная драўляная царква ўжо падрыхтаваная да прыкрыцця, — заявіў мясцовы мужчына, які прыйшоў у святліцу паглядзець як маладыя абучаюцца традыцыям.

Ёсць надзея, што бацькі дзетак, якія прынялі ўдзел у завяршальных майстар-класах у Залешанах, перанясуць гэтыя традыцыі дамоў і будуць перад Дабравешчаннем Прасвятой Багародзіцы пячы буславыя лапы сваім дачушкам і сынкам.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Што новага ў Новым Ляўкове

Ужо другі месяц у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета рамантуюць аўтамабілі. Рамонтную майстэрню адкрыў новаляўковец малады мужчына Тамаш Трусевіч. Чагосьці такога дагэтуль у нашай вёсцы ніколі не было.

Першымі, хто меў патрэбу адрамантаваць сваю аўтамашыну, былі аднавяскоўцы. Яны найхутчэй даведаліся пра аўтамайстэрню ў суседа і... ездзяць ужо па Новым Ляўкове на адрамантаваных машынах.

Дыяпазон паслуг тут шырокі, але я не стану рабіць рэкламу. Варта дадаць, што абодва бакі — кліенты і выканаўца паслуг задаволеныя. На пляцоўку перад майстэрняй прыязджае ўсё больш і больш кліентаў. Добрыя чуткі з Новага Ляўкова пайшлі. Многія ўласнікі перш-наперш легкавых аўтамашын, якія яшчэ не ведалі пра новую аўтамайстэрню ў іх бліжэйшай ваколіцы, даведаюцца са старонак беларускага штотыднёвіка „Ніва". Наша родная газета заўсёды прыносіць многа вестак сваім чытачам. **(яц)**

## Найпрыгажэйшыя вышыўкі і карункі

Гайнаўскі дом культуры ўжо дванаццаты год арганізуе раённыя агляды гафту і карунак і ладзіць выстаўкі вырабаў рукадзельнай справы. З гэтай нагоды ён кожны год выдае каляровы буклет са здымкамі прац паасобных удзельнікаў агляду. Сёлета свае працы на агляд падрыхтавалі 38 жанчын і 2 мужчын з Гайнаўскага павета. Выстаўку адкрылі 30 сакавіка гэтага года ў галерэі ГДК і будзе яна працаваць да 1 мая г.г.

Гэта экспазіцыя найлепшых прац вышывальшчыц і вышывальшчыкаў з Гайнаўкі (адсюль іх найбольш) ды Гайнаўскай і Нараўчанскай гмін (шэсць жанчын удзельніц). 21 з іх давала свае працы на выстаўку і ў мінулым годзе і яшчэ даўней. Сёлета ўпершыню на выстаўцы можна агледзець працы, між іншым, Зіны Рубчэўскай з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны. Яны заслугоўваюць увагі і арганізатары вырашылі пазнаёміць з імі гледачоў. **(яц)**

## Юбілейнае свята

Рыгор Савіцкі нарадзіўся ў сакавіку 1929 года ў вёсцы Катлы, што на Бельшчыне ў сялянскай сям'і. Тут правёў ён сваё дзяцінства і маладосць. На 26-м годзе жыцця ажаніўся і разам з жонкай Вольгай стаў жыць у Кнаразах, што недалёка ад Катлоў. Заснавалі сваю сям'ю — у іх чацвёра дзяцей, дзевяць унукаў і сем праўнукаў. Цяпер спадар Рыгор удавец, але жыве пры сыне і нявестцы, а таксама з унукамі. Гаспадаркай ужо не займаецца, але дагэтуль любіць рыбаць пучкі.

9 сакавіка сям'я наладзіла спадару Рыгору свята ў сувязі з 90-мі ўгодкамі з дня народзінаў. Многа тут — пры дапамозе ўсёй сям'і сарганізавала яго ўнучка Агнешка. У вясковай святліцы адбылася сустрэча Юбіляра з блізкімі, а налічвалася тут сорак асоб. Апрача смачнай ежы, добрай музыкі была цудоўная сямейная атмасфера. Рабілі многа здымкаў, частаваліся надзвычайным тортам, які спякла ўнучка Агнешка. Спадар Рыгор быў вельмі задаволены, дзякаваў усім за імпрэзу і нават затанцаваў. На наступны дзень прымаў віншаванні ад суседзяў і іншых жыхароў вёскі. Са спадаром Рыгорам я знаёма з дзяцінства — і таксама прыхіляюся да пажаданняў. Многія лета Вам, шаноўны Юбіляр!

Жэня МАРТЫНЮК

# Тужу па ўсім

❖Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



**Вайна, жыццё на чужыне яго не зламалі. Наадварот, знайшоў у сабе настолькі сілы, каб і тут «ваяваць» за культуру свайго народа. Дзякуючы яму ўся Польшча даведалася пра чачэнскі, і таксама беластоцкі, танцавальны гурт «Лоўзар». Ахмед Ташаеў падкрэслівае, што каўказскія танцы, як менталітэт іхняга народа — смелыя і гордыя. І сапраўды, ведаючы Ахмеда, цяжка ў тым сумнявацца.**

**«Ніва»: — Пра танцавальны гурт «Лоўзар» чулі на Падляшшы, але і таксама ў Польшчы многія. Калі Вы пачалі прамаваць чачэнскую культуру?**

**Ахмед Ташаеў:** — Я прыехаў у Беласток у 2006 годзе. Мы ўцякалі ад сітуацыі, якая была ў нас на радзіме. Уцякаючы, я не думаў, што тут буду працягваць сваю дзейнасць. Я ўсё жыццё працаваў у галіне асветы і культуры. Я завяршыў таксама вышэйшую навучальную ўстанову такога напрамку. У нас расійскія войскі акупавалі нашу тэрыторыю. Небяспечна было тады там жыць, тым больш для мяне. Самым важным было з'ехаць у бяспечнае месца.





**— Спачатку Беласток быў Вашай мэтай?**

— На пачатку я аб нічым не думаў. Я проста шукаў бяспечнага месца. Мы жылі ў лагеры, але ўжо пасля паўгода я зразумеў, што тут пражывае шмат нацыянальнасцей: украінцы, беларусы, таксама расіяне. Вырашыў, што працэй будзе застацца тут. З мовай працэй, адносіны менш складаныя. Пабачыў, што тут нармальныя людзі. У кожнага свая рэлігія. Заўважыў добрыя адносіны да праваслаўя. Мячэці тут таксама, вернікі ісламу могуць хадзіць у мячэць. Пазней даведаўся, што тут таксама жывуць татары, ужо ад 600 гадоў. Вырашыў тут застацца. Гэтае месца мяне задавальняла.

**— У Чачэніі Вы жылі таксама ў горадзе?**

— Так, у Грозным.

**— Не было цяжка прывыкнуць, паколькі Вы з'ехалі з метраполіі ў не так ужо вялікі горад?**

— Ведаеце, на той час мне польская вёска была горадам, таму што горад, у якім я жыў, быў разбураны ўшчэнт. Я на гэта не зважаў. Скажу шчыра, я з 2006 года тут жыву, і бачу вялікія змены. Улады Беластока зрабілі вельмі, вельмі многа. Беласток мне падабаецца.

**— Усё-такі напэўна гэта патрабавала ад Вас многа энергіі, каб знайсці ў сабе сілу і працягваць культурную справу, на жаль не на радзіме, але прынамсі тут?**

— Увесь свет толькі гаварыў пра нас, як аб баевіках, ваенных і яшчэ некаторыя нам прыпісвалі тэрарызм. Ну, гісторыя паказа, хто на самой справе тэрарыст, а хто не. Вядома, у кожнай нацыі розныя людзі і кожны ў розных сітуацыях паводзіць сябе па-рознаму, тым больш у час вайны можа выходзіць па-за рамкі асноўных правілаў як з аднаго, так і з другога боку. Я вырашыў тут паказаць культуру свайго народа. Нават не толькі сваю, але таксама суседзяў. Як гаворыцца — Каўказ адзін. Спадзяюся, што калісьці не будзе падзелены. Каўказская культура — бацькоўская, родная, таму на Каўказе паважаем культуру суседзяў. Калі мы пачалі тут займацца нашай справай, вучні пачалі разумець таксама сваю гісторыю. Праз культуру мы вывучаем гісторыю. Наогул народ, які не ведае гісторыі сваіх продкаў, ідзе ў небыццё. Гэта маё меркаванне. Народ, які помніць гісторыю дзядоў, будзе ісці ў светлае. Ад гэтага, як будзем вучыць сваю моладзь, залежыць будучыня супольнага свету. Мы хацелі сваю культуру паказаць рознымі спосабамі. Нам удалося папасці ў шоў-праграму «Мам талент». Зараз прымаем удзел у розных фестывалях ва ўсёй Польшчы. І зараз нас шмат хто запрашае. Вядома, я не магу са сваім гуртом ездзіць у іншыя дзяржавы, не ўсе яшчэ атрымалі статус уцекачоў. Усё-такі нас падтрымліваюць — юрыдычна мы знаходзімся пад эгідай беластоцкага Маладзёжнага дома культуры. Моцна нас падтрымлівае прэзідэнт горада Беластока. Маем кантакты з рознымі калектывамі: беларускімі, украінскімі, жыдоўскімі, цыганскімі. Тут часта праходзяць рознага тыпу міжнародныя фестывалі і мы ўжо сябе ведаем і супрацоўнічаем. Дзеці інтэгруюцца — гэта добрая справа. Я бліжэй супрацоўнічаю з татарамі. Зараз працую з групай «Бунчук» у якасці харэографа.

**— Дзякуючы Вам пазнаем Чачню як краіну з незвычайнымі танцамі.**

— Танцы ў нас розныя. Перш за ўсё мы вядомыя з танцаў воінаў. Я коратка раскажу гісторыю. Былі часы, калі з дзевяці гадоў хлопцаў забіралі ў спецыяльныя лагеры, каб не выраслі на мамчыных сыночкаў. Вучылі іх карыстацца рознымі відамі ружжа, выжываць у гарах, лясах, ведаць, што можна есці, на каго паляваць. У асноўным танцы былі танцамі воінаў. Наш народ на працягу тысячы гадоў ваяваў, усё-такі былі часы, калі мы жылі мірна і тады таксама танцавалі парныя танцы.

**— Аглядаючы вашы выступы, складаецца ўражанне, што яны вельмі патрабавальныя ў плане фізічных здольнасцей. Некаторыя моманты здаюцца нават нерэальнымі да паўтарэння звычайнаму чалавеку.**

— Так, безумоўна. Каб танцаваць нашы каўказскія танцы, трэба мець у крыві смеласць, гордасць. Не гавару, што ў іншых народаў гэтага няма. У кожнага свой менталітэт, свая культура, а гэта ўсё, аб чым я гаварыў, маецца ў менталітэце чачэнскага, горскага, каўказскага народа. У нас мужчына павінен быць стройным, шчуплым. У парным танцы мужчына — арол, а жанчына — лебедзь. Жанчына павінна быць сціплай і пластычнай — яна сабой уяўляе белую лебедзь. А ў ваенных танцах мы і арлы, і ваўкі. Так можна гэта вобразна растлумачыць.

**— Вы праводзіце заняткі між іншым у Пачатковай школе № 26. Тут, у Польшчы, дзеці не маюць магчымасці вывучаць чачэнскую мову. Гэта не праблема?**

— Сваёй мове мы вучымся дома. Таксама я вяду заняткі па-чачэнску. Я стараюся вучыць дзяцей так: калі знаходзішся з палякамі, гавары па-польску, калі сустрэнеш расіяніна — гавары па-руску. Трэба вывучаць мовы, гэта напэўна прыдасца ім у будучыні.

**— Колькі чачэнскіх дзяцей вучыцца ў Пачатковай школе № 26 у Беластоку?**

— На мае заняткі на сённяшні дзень прыходзіць больш за 60 вучняў — перш за ўсё чачэнскіх, украінскіх з Крыма. Таксама ёсць вучні з Беларусі. Гэта такая спецыфічная школа. Тут настаўнікі, педагогі і дырэкцыя маюць вялікі вопыт у навучанні замежных дзяцей, таксама дзяцей уцекачоў.

**— Напэўна будзе можна гурт „Лоўзар" пабачыць на надыходзячых падляшскіх фестывалях?**

— Пабачым. Зараз мы працуем. Ужо атрымліваем запрашэнні, так што будзем старацца.

**— Па чым найбольш тужыце, калі думаеце пра Чачню?**

— Я тужу па ўсім. Прырода, горы, лясы... туга па ўсім.

# Адліга
## на Беласточчыне

**У аўторак 9 красавіка ў Падляшскай ксёнжніцы адбылася сустрэча з Марцінам Маркевічам, аўтарам толькі што выдадзенай беластоцкім аддзяленнем Інстытута нацыянальнай памяці кнігі „Odwilż na prowincji. Białostocczyzna 1956-1960”. Я тут не буду дакладна прыводзіць ходу гэтай сустрэчы, але крыху на тэму беластоцкай „адлігі” зачарпну з шырэйшых крыніц.**

З пункту цяперашняга гледжання на падзеі 63-гадовай даўнасці, правінцыяй можна назваць той абшар нашай дзяржавы, дзе падзеі адбываліся значна менш дынамічна, чым у самой Варшаве. Тадышнія ваяводскія ўлады былі ўжо моцна прыручаны да паслухмянасці з цэнтра і не знаходзіліся смельчакі, якія б рванулія за тым новым подыхам, які павеяў праз адчыненае XX з’ездам савецкай кампартыі акенца. Правінцыю трэба было падштурхоўваць з цэнтра, а тут укаранілася ўжо прывязанасць да павадка зверху. Вось, да прыкладу, у Гайнаўцы на заклік з вярхоў да дэмакратызацыі партыйнага жыцця, адзін з мясцовых актывістаў паставіў рытарычнае пытанне: „А як жа ж мы будзем сядлаць каня тае дэмакратыі, на якім мы ніколі не ездзілі?” А беластоцкія газеты больш тады пісалі пра здачу ў карыстанне новага будынка Ваяводскага камітэта партыі, чым пра тое, што адбывалася ў паслясталінскім свеце.

У Беластоку найбольш смеласці праявіў тады гарадскі камітэт Польскай аб’яднанай рабочай партыі. Тадышні першы сакратар гарадскога камітэта ПАРП Казімеж Орнат зладзіў 24 кастрычніка 1956 года мітынг на дзядзінцы палаца Браніцкіх, на які зышлося звыш дзесяці тысяч народу. Прысутныя чакалі выступлення па радыё новага тады першага сакратара ЦК ПАРП Уладзіслава Гамулкі. Але сустрэча набыла крыху стыхійнасці, дзе прысутныя выступоўцы дамагаліся рашучых змен у палітычным жыцці Польшчы, крытыкавалі ваяводскія і гарадскія ўлады, патрабавалі вызвалення прымаса Стэфана Вышынскага, змен назваў некаторых беластоцкіх вуліц ды салідарызаваліся з венгерскімі паўстанцамі. Пазней уфармавалася шэсце, якое прыйшло ў касцёл св. Роха; тамашні пробашч кс. Адам Абрамовіч заклікаў да захавання спакою. Удзельнікі мітынгу пайшлі пад будынак Ваяводскага камітэта ПАРП, а адтуль зноў на дзядзінец палаца Браніцкіх, дзе радыкалізм прысутных стаў прыгасаць.




Гэтая падзея выклікала крытыку з боку ваяводскіх партыйных вярхоў у бок Казімежа Орната, які пазней раскайваўся: „Мы неяк дазволілі ўзняцца хвалі тых крытычных галасоў, мы хацелі адказаць на закіды, якія прад’яўлялі ў наш адрас рабочыя на прадпрыемствах, і калі б людзі гэта зразумелі, было б добра. Пленум гарадскога камітэта пацвердзіў, што людзі патрабавалі ад нас прыняць пазіцыю, але на хвалі таго ціску, так гарачкі — мы не прадугледжвалі расправы з Ваяводскім камітэтам, што гэта нам дапаможа выправіць хібы ў ВК. І калі б мы самі аднесліся да хвалі галасоў, то не дайшло б да расправы, як гэта сталася ўчора, не толькі ў час мітынгу, але і ў горадзе. Гэта з боку некаторых *warchołów* было жаданне публічна расправіцца з партапаратам, міліцыяй, бяспекай і ўсёй уладай...” Да гэтага варта дадаць, што больших выбрыкаў тады не было, але напагатове былі атрады спецназа; гэтыя беластоцкія фармацыі першы раз задзейнічалі не ў час палітычных страсцей, але спартыўных дзеля ўціхамірання надта разгарачаных футбольных балельшчыкаў...

Неўзабаве пайшлі змены і ў Беластоку. З пасады першага сакратара Ваяводскага камітэта партыі быў адкліканы Ян Яблонскі, яго месца на кароткі час заняў Антоні Ляскоўскі, а неўзабаве першым сакратаром ВК ПАРП у Беластоку быў назначаны Аркадзь Лашэвіч, які да таго часу быў сакратаром ВК у Жэшаве. І менавіта Аркадзь Лашэвіч стаў тады рэкардсменам у маштабе Польшчы па працягласці ваяводскага партыйнага кіравання; быў ён на пасадзе звыш чатырнаццаці гадоў, даўжэй нават чым больш праслаўлены Эдвард Герэк...

Неўзабаве энтузіязм да новага новыя ўлады пачалі паступова тушыць, хаця шмат кастрычніцкіх змен захавалася. Асаблівай палёгкай стаў адыход новага польскага кіраўніцтва ад калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Таксама і ў сферы культуры не ўся адліга была прымарожана. Праўда, Беласточчына ў гэтай дзялянцы чалавечай актыўнасці значна адставала ад прызнаных культурных цэнтраў краіны. Былі спробы прыцягнуць у Беласток некаторых польскіх пісьменнікаў, але беспаспяховыя. Затое сюды наведваліся журналісты, якія ў мясцовай рэальнасці знаходзілі шмат экзотыкі для рэпартажаў. Агульная адсталасць Беласточчыны была таксама прычынай масавай міграцыі нашага насельніцтва ў іншыя рэгіёны Польшчы. Згаданы Аркадзь Лашэвіч быў нават заўважыў, што на Шлёнску ёсць тры „беластоцкія” шахты; там выхадцы з Беласточчыны складалі большасць працоўных калектываў... На сустрэчы была згадка ад аднаго са слухачоў, што з кастрычніцкай адлігай пайшлі змены ў спорце, што ведамасныя назвы спартыўных клубаў былі заменены мясцовымі, напрыклад вярнулася назва „Ягелоніі”...

Была таксама мова і пра прабуджэнне нацыянальных меншасцей — беларускай і літоўскай. Калі беларускія справы пайшлі даволі гладка, то з літоўцамі было крыху складанасцей і, напрыклад, іхні часопіс „Аўшра” стаў выходзіць толькі ў 1960 годзе. Гэтае „адкрыццё” нацыянальных меншасцей адбылося ў выніку „адлігі” ў прынятым у сталінскі перыяд вобразе гамагеннай нацыянальна Польшчы. Гэтая талерантнасць улад у адносінах да беларусаў успрымалася часткай польскага насельніцтва непрыхільна, беручы пад увагу большую падтрымку беларусамі пасляваенных парадкаў у Польшчы. Былі закіды, што беларусы здамінавалі ўладныя і сілавыя ваяводскія структуры. Дакладчык сцвердзіў, што была звышрэпрэзентацыя беларусаў у гэтых органах, але не дамінацыя...

Ды што ж мелі рабіць тыя нашы беларусы, калі для іх адліга пачалася значна раней, бо з канцом Другой сусветнай вайны. У 1983 годзе Віктар Рудчык быў пісаў у „Ніве”: „Ад пачатку народнай улады, калі неабходна было грудзьмі і зброяй пастаяць за яе перамогу і замацаванне, крыніцай змагароў за новы лад сталі нашы вёскі. У міліцыю, у органы бяспекі, у афіцэрскія і цывільныя школы, на фабрыкі і ў шахты ішлі найбольш здольныя, адважныя і стойкія нашы хлопцы і дзяўчаты, ішлі з бацькоўскім благаслаўленнем на лепшую долю, на шчасце, якога на працягу цэлых стагоддзяў не ведалі мужыцкія хаты, бо здаўна панамі былі тут чужыя, багатыя, да якіх прыналежала зямля і ўлада...” Можа гэтая фраза ў спектры дамінуючых цяпер канонаў паказацца нонканфармісцкай, але зярнятка праўды, здаецца, у ёй ёсць. Такім чынам адліга 1956 года прынесла нам чарговую палёгку...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

## Сацыяльная дапамога ў Чаромсе

Гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі ў Чаромсе займаецца матэрыяльным забеспячэннем маламаёмных грамадзян. Рашае задачы так даручаныя, як і ўласныя. У мінулым годзе на рэалізацыю сямейных павіннасцей гміна атрымала 2 597 123 зл. Тычылася гэта аліментацыйных задаткаў, апекі за догляд і складчыны ЗУС. Сёлета план выдаткаў на гэтую мэту быў паменшаны і склаў суму 2 345 335 зл. У мінулым годзе задаткамі з аліментацыйнага фонду пакарысталася адзінаццаць сем’яў. Здзейснена 258 выплат на суму 93 250 зл. А вось як у гэтым годзе рэалізуюцца задачы сацыяльнай дапамогі. Выплаты за догляд сямейніка з абмежаваннямі атрымлівае 17 чалавек. Здзейснена 201 выплат на суму 107 720 зл. Спецыяльнай грашовай дапамогай за догляд сямейніка з абмежаваннямі карыстаецца дзесяць сем’яў. Здзейснена 110 выплат на суму 59 100 зл. Грашовую дапамогу за догляд аднаму з бацькоў над дзіцём з абмежаваннямі атрымлівае адзінаццаць сем’яў. Здзейснена 118 выплат на квоту 174 286 зл. Сродкі дапамогі ў выглядзе сталай датацыі атрымлівае 26 сем’яў. Здзейснена 262 выплат на суму 145 763,35 зл. Гэтая падтрымка належыцца асобе адзінокай, як і сямейнай. Умовай яе атрымання з’яўляецца поўная непрацаздольнасць або пажылы ўзрост, а таксама выкананне падаходных крытэрыяў. З 1 кастрычніка 2018 года крытэрый для самотнай асобы складае 701 зл., а для асобы ў сям’і — 528 зл. Апрача таго павіннасць у выпадку самотнага не можа перавышаць квоты 645 зл.

Перыядычная фінансавая дапамога з’яўляецца адной з форм падтрымкі гарантаваных законам ад 12 сакавіка 2004 года аб сацыяльнай дапамозе. Дапамога выплачваецца асабліва па прычыне працяглай хваробы, беспрацоўя, абмежавання, немагчымасці атрымання права на падтрымку з іншай сістэмы сацыяльнай дапамогі.

У мінулым годзе перыядычнай фінансавай дапамогай пакарысталася сто асоб і столькі ж сем’яў. Здзейснена 849 выплат на суму 367 358 зл. У першым квартале гэтага года пакарысталася 88 асоб і столькі ж сем’яў. Выплачана 96 605 зл.

Адрасная грашовая дапамога прызначаецца на жыццёвыя патрэбы, а перш за ўсё на закупку лякарстваў, харчовых прадуктаў, апалу, вопраткі, прадметаў хатняга ўжытку, а таксама на пакрыццё кошту невялікага рамонту кватэры, пахавання. Такую дапамогу могуць атрымаць бяздомныя, або асобы, якія не карыстаюцца сацыяльным забеспячэннем на пакрыццё аздараўляльных коштаў, пацярпелыя ў нешчаслівых выпадках. У мінулым годзе адраснай дапамогай пакарысталіся 134 асобы і столькі ж сем’яў. Выплачана 104 430 зл. У гэтым годзе адпаведна — 59 чалавек і сем’яў. Выплачана 28 902 зл.

Гмінны асяродак рэалізуе праграму «Харчаваннеў школеі дома». Гэтай дабрадзейнасцю карыстаецца 39 вучняў пачатковай школы, 5 гімназістаў, 17 дашкольнікаў і 10 вучняў сярэдніх і звышліцэйскіх школ. Кошт харчавання ў пачатковай школе і гімназіі складае 3,50 зл., у садку — 4,20, а ў сярэдніх школах 6,50 зл.

Пры Гмінным асяродку змяшчаецца Кансультатыўны пункт вырашэння супрацьалкагольных праблем. Пакарысталася ім 13 чалавек. Камісія прыняла рашэнне накіраваць адну асобу на лячэнне ў цэнтры залежнасці ад алкаголю, наконт двух іншых — падала заяву ў суд з прапановай прыняць меры па лячэнні ад алкагалізму. У мінулым годзе заведзена 11 працэдур «сіняй карты», у тым ліку 9 па прапанове паліцыі 2 — ГАСД. Разам рэалізаваных было 19 працэдур (восем мінулагодніх і адзінаццаць з цякучага года). Адбылося 11 сустрэч рабочых груп. На нарадах запоўнена адзінаццаць «сініх карт».

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Вясновы Бельск!







— Ці бачыў з вас хто ўжо бусла? — спыталіся мы ў чацвёртым «б» класе.

— Я бачыла, — адазвалася дзяўчынка з першай парты.

— Твой бусел ляцеў ці хадзіў?

— Сядзеў на гняздзе, — пачулася ў адказ. — І мама сказала, што ўвесь год я праваляу на адным месцы, нідзе далёка не ад'еду ад хаты…

— Я ўбачыў, як хадзіў па балоце, — падбіў эмоцыі класны сябра.

— І што, што будзе ? — дапытваліся ў класе. — Што бацькі гаварылі?

— Ну, сказалі, што неяк перавядуць мяне з класа ў клас, — пачуўся зухаваты, акрашаны гумарам адказ, — але цяжкавата будзе…

У адказ успых вясёлы смех. Хлопец, які разгадаў вясновую варажбу, выдатнік — як большасць нашых сяброў з чацвёртага «б» класа. Вось на ляту Куба Паўлючук разгадаў складаную загадку з лічбамі. Куба прызнаўся, што любіць матэматыку. Ды, здаецца, што ў класе ўсе любяць матэматыку і ўсе іншыя прадметы.

— Гэты клас з сабой вельмі зжыты, — кажа настаўніца Валянціна Бабулевіч. — Яны дапамагаюць адзін аднаму. Вядома, усе змагаюцца за вынікі, але гэта здаровая канкурэнцыя. Калі ў каго поспех, няма зайздрасці. Усе ўмеюць прыстойна ўспрыняць чужы поспех, віншуюць адзін аднаго. Напэўна гэта заслуга іх ранейшай выхавацелькі спадарыні Ірыны Кандрацюк, якая вяла іх у I–III класах. Да таго многія вучні — сябры з часоў прадшколля.

Так ці інакш чацвёрты «б» клас лічаць адным з самых здольных і перспектыўных у школе. Сапраўды, на ўроках тут засяроджаная атмасфера. Дзеці любяць вучыцца, умеюць слухаць і ставіць добрыя пытанні. Нашу размову пра сімволіку, звязаную з прылётам буслоў, мы папоўнілі тэматычнай маляванкай. Дзеці ведалі, што найлепш пабачыць лятучага бусла. Тады, як верылі нашы продкі, год будзе лёгкі, «лятучы», насычаны поспехамі.

Нашы сябры паспяхова выступілі ў дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова». Гэта **Мартына Гэрэс, Юля Сельвясюк, Бартэк Міхноўскі, Аляксандра Асіпюк, Марыся Яганаў, Вікторыя Анішчук**. Нашы выдатнікі абажаюць беларускі тэатр, многія вучні **(Марыся, Юлька, Вікторыя, Тобіяш, Матэвуш, Шыман)** ходзяць на тэатральныя рэпетыцыі ў Бельскі дом культуры. Матэвуш і Шыман яшчэ музыканты — іграюць на гармоніках. Прыгожым дадаткам да гэтага вясновага вянка была звестка, што амаль усе вучні падпісваюцца на «Зорку». Таму сустракаць вясну з такім класам як чацвёрты «б», што ў бельскай «тройцы», гэта лятучая і надзейная прыгода. Такіх прыгод і настрою жадаем вам на Вялікдзень і ўсе майскія святы!

*ЗОРКА,*
*фота Ганны Кандрацюк*

*(Беларуская народная легенда)*

# Пакаранне бусла

Калі Бог стварыў жаб, яшчарак і вужоў, дык паклаў іх усіх у мяшок і даў яго патрымаць буслу:

— Толькі не заглядай усярэдзіну! — прыказаў.

— Не буду! — паабяцаў птах. — Не буду!

Але ж… Нашага бусла ўзяла такая цікавасць, што ён не стрымаў абяцанкі і расхіліў мяшок. І тады ўсе гадзюкі, паўзуны ды яшчаркі, — хто хутчэй, — павыскоквалі, распаўзліся, разбегліся па цэлай зямлі…

Прыйшоў Бог і ўбачыў, што бусел не стрымаў абяцанкі, дык схапіў дубец і здорава адлупцаваў птушку. Ад гэтага, кажуць, у яго хвост чорны зрабіўся…

Пасля Бог астыў ад гневу ды кажа:

— За кару ўсё жыццё будзеш па балоце хадзіць і збіраць тых жаб, вужоў, яшчарак, што сам павыпускаў…

*(гак)*

## УВАГА КОНКУРС!

## № 16-19

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 5 мая 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

**Шэсць ног, ды без капытоў; ёсць рогі, а не бадаецца; чорны, а не воран; ёсць крылы, а не птушка.**
**(Ж..)**

**Адказ на загадку № 12: у кожнага ката па дзве нагі.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі** Оля Мадзалеўская, Аліўка Порац **з Нарвы,** Наталля Калодка, Шыман Івановіч, Аляксандра Кузьма **з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока,** Мішка Станкевіч, Патрыцыя Каранкевіч, Каміля Езуіт **з Залук,** Габрыся Калішук, Зузя Скрабская **з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

# Бусел — сімвал Беларусі!



Мы ўжо раней прадставілі вам зубра, які з'яўляецца сімвалам Падляшша. Сёння прапануем вам маляванку з буслам — птушкай, якую многія лічаць сімвалам Беларусі. Гэтую птушку са спадзяваннем выглядаем кожную вясну. З прылётам буслоў звязаны народныя павер'і (чытайце ў рэпартажы з Бельска). Бусел — грацыёзная птушка. На гэта ўплывае надта прыгожае спалучэнне колераў: белая птушка з чорнымі крыламі і з гнуткай шыяй, тонкай чырвонай дзюбай і доўгімі чырвонымі нагамі. Буслы — прыклад вернасці. Яны жывуць у пары ўсё жыццё. Наш Уладзімір Караткевіч назваў Беларусь «Зямлёй пад белымі крыламі»! Сапраўды, буслы ўпадабалі Беларусь. Яны вяртаюцца да нас з Афрыкі кожны год, каб тут нараджаць і выхоўваць буслянятак. Людзі вераць, што там, дзе буслы, нараджаюцца вясёлыя дзеці! А вы як думаеце?

**Зорка**

*Малюнак Алены Шалімы*

Ларыса Геніюш

## Бусел

Выйшаў бусел на балота,
Па калені ўвяз.
— Працягніце, жабкі,
Лапкі –
Пацалую вас.
— Крум-крум, крум-крум, –
Крум-крум, крум-крум, –
Жабкі ў адказ, –
Адчапіся, страшны бусел,
Не палохай нас.
Есці ўжо табе ахвота –
Соладка пяеш.
А як выскачым з балота,
Возьмеш праглынеш.
Ходзіць, ходзіць,
Маршыруе бусел:
— Кля-кля-кля, –
Я спачатку пацалую.
Праглыну пасля.

## Польска-беларуская крыжаванка № 16-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 12-19:**

Прасцяг, рост, акрабат, ох, Ас, апора, аўтар, рак, аўторак, Пі, тур, Ася, мана, мох. Закалот, торт, аўта, баўтун, прастора, рот, ар, Ас, ара, стоп, хор, ах, яр, рапс, акіян. Узнагароды, **запісныя кніжкі,** выйгралі **Зося Саковіч, Оля Мартыновіч, Эміля Калодка** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Клаўдзія Ніканчук, Наталля Петручук** з Нарвы, **Каміль Кубаеўскі, Дамініка Дмітрук, Лукаш Дзюбанос** з Орлі, **Алівія Саберай, Габрыся Калішук** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!



Тэрэса ЗАНЕЎСКА

# Духоўная спадчына




Мілай неспадзеўкай для мяне была пасылка з самым новым томам вершаў Зоі Сачко пад загалоўкам *Poka*. Ужо сама вокладка, сімвалічная і архетыпічная ў сваім прамаўленні, прыносіць прыемнасць. Гэта рэпрадукцыя прыгожай алейнай карціны Міраслава Здрайкоўскага *Над скітом у Адрынках*. Блакіт, сімвал духоўнасці, схіляе да одуму, суцішае, даваляе лагодна перайсці да чытання кнігі, афармленай з густам ва ўсіх адносінах, цудоўнай і вельмі старанна апрацаванай у эдытарскім плане. Магчыма, што каб нарадзіўся гэты бібліяфільскі шэдэўр, трэба заглядзецца ў тую сінь у Вульцы або Студзіводах? Для выдання прыгожай і мудрай кнігі сёння непатрэбныя толькі грошы, але, перш за ўсё, талент і ўяўленне. Выказваю шчырую ўдзячнасць Асацыяцыі Музей малой айчыны ў Студзіводах. Не кажучы ўжо пра аўтарку. Кніга з'яўляецца выразам мастацкай поўні, сведчаннем цэласнасці і сінтэзу мастацтваў, паэзіі і жывапісу, якія дапаўняюць адзін аднаго на шляху да шэдэўра. І адтуль той блакіт, колер неба і багоў, у еўрапейскай культуры сімвал тугі па ідэале. У сінім небе лунае бусел, у правым верхнім куце вокладкі, што стварае ўражанне, што ўмомант узляціць у нябёсы і пашыбуе ў вечнасць. Ён вернецца вясной, ён жа — сімвал уваскрэсення. Паводле шматлікіх легенд гэты птах з'яўляецца выразам бацькоўскай любові, ахоўнасці, не толькі над дзецьмі, але таксама і старымі бацькамі. Усё злучана адно з адным, сплецена, звязана паміж сабой. Пачатак і канец, тут і там ёсць толькі звёнамі ў бясконцым вечным ланцугу, у якім боскія і чалавечыя справы — адно. І аб гэтым, па сутнасці, распавядае новы зборнік вершаў Зоі Сачко *Poka*, прасякнуты метафізікай, паглыбленай духоўнасцю і шматбаковым поглядам на рэчы, здавалася б, простыя, якія пры пранікліўвым паглядзе пасылаюць да глыбейшых слаёў духоўнага жыцця. Аказваецца, што кожная, самая звычайная рэч мае свой глыбока схаваны метафізічны сэнс і, такім чынам, заслугоўвае задзіўлення і захаплення.

Зоя Сачко здаўна цікавілася філасофскімі аспектамі духоўнага жыцця чалавека. Гэта невыпадкова, што ў час вучобы кранула яна праблему філасофскага падтэксту канфліктаў у *Братах Карамазавых* Фёдара Дастаеўскага. Думкі пасля чытання многіх філасофскіх трактатаў адбіліся не толькі на старонках апошняй, але і ў папярэдніх кніг вершаў аўтаркі. Не было іх шмат: *Пошукі* (1982), *Над днём похіляна* (1992), *Шчэ одна вэсна* (1995) і *Поэмы* (2000), але аб філасофскіх інспірацыях гэтых зборнікаў можна напісаць доктарскую дысертацыю. Зоя Сачко ведае вагу і сілу слоў. Распараджаецца імі ашчадна і з вялікім роздумам, каб *odpowiednie dać rzeczy słowo*. Варта працытаваць папярэджанне, дадзенае Канвіцкім, што *лёгкасць, майстэрства, самаіснасць з'яўляюцца праклёнам мастака. Мастацтва сілкуецца недастатковасцю. Жывапісец, пазбаўлены атрыбуту лёгкасці, шукаючы кампенсацыі, мусіць пусціць у рух так званы творчы інтэлект. Графік, якому самі па сабе рысуюцца ногі, рукі, галовы, коні і самалёты, ніколі не зробіць якога-небудзь мастацкага адкрыцця. Будзе ўладкаваным рэалістычным майструком або спраўным імітатарам. (...) Можа так сама быць і з пісьменнікам. Магчыма, лёгкасць пісання акуплена балбатнёй, банальнасцю і ўпадабаннем да сафістыкі. Можа быць, той, хто пляце гладка, не мусіць турбаваць галавы, не мусіць напрагаць тых унутраных сіл, якія з'яўляюцца адзінай і апошняй апаратурай спасцігання таямніц мікра- і макракосмасу (1)*. Зоя Saczko, Міраслаў Здрайкоўскі, Магдалена Петрук і іх сумесны твор — зборнік *Poka*, сведчаць, што Канвіцкі мае рацыю.

Доўга мы чакалі чарговага паэтычнага голасу Зоі Сачко. Але было варта. Гэтая кніга мудрая вопытам і горкай сталасцю, поўная задуменнасці над лёсам чалавека, якога не выбіраем, але часам з адценнем іроніі пра нас саміх, бяздумных, пазбаўленых адчувальнасці і памяці, загледжаных у экраны камп'ютараў і смартфонаў. Зоя Сачко піша ў дыялекце сваёй роднай, праваслаўнай вёскі. І да сёння засталася вернай яму. Яна абрала такую форму мастацкага пераказу, так як прызналася шмат гадоў таму, што *хоча быць блізкай людзям — не вялікай*. Гэта быў добры выбар. Дзякуючы яму яна стала вялікай, якраз праз тую блізкасць. Як справядліва адзначае Дарафей Фіёнік, матчынай мовай можна выказаць сябе і апісаць свет. Малыя радзімы сёння перажываюць свой рэнесанс, а лакальныя мясцовыя ідэнтычнасці, у тым ліку мастацкія, назапасілі сілу свайго выказвання, прадстаўляючы дасягненні мастакоў, якія часта пераскакваюць межы хатняй радзімы.

Зборнік вершаў *Poka* складаецца з дзвюх частак. Першая называецца *Тут*, другая *Сабранае з мінулага*. Ужо так скампанаваная кніга накіроўвае нашу ўвагу да вечнай ісціны, што мінулае, сучаснасць і будучыня не існуюць асобна, але ўзаемазвязаныя. Якасць нашага «цяпер» залежыць ад свядомасці і памяці дасягненняў нашых продкаў, тых, хто быў тут да нас, у гэтым месцы, якіх ногі пакінулі свой след на парозе, якіх каравыя пальцы спрацаваных далоняў перапляталіся ў вячэрняй малітве. Гэта яны вяртаюцца ў сне на мяжы двух стагоддзяў, арганізуюць уяўленне паэткі, і ў хатняй мове роднай Волькі апавяшчаюць вечныя ісціны пра стан і прыроду чалавека і простыя — аб паўсядзённым жыцці і простых справах, яны арганізуюць іх жыццё. У створаным паэтычным і жывапісным (гл. форзац кнігі) свеце яны прыселі на лавачцы каля дарогі, дзе вядуць *розговоры* крылатымі фразамі. Тут побач — іхныя дамы, убогія, але ж


■ Зоя Сачко (*фота Міры Лукшы*)

вельмі багатыя, шчаслівыя, бо ахінае іх *бусловае крыло* апякунскага птаха, што вяртаецца з кожнай вясной у сваё гняздо. Гэты бусел, пералётная птушка, сюды вяртаецца. Прырода адраджаецца, прыходзяць новыя пакаленні. Пакуль працягваецца памяць — мы жывем. Гэтая кніга нагадвае нам пра тое, што ад кожнага чалавека застаецца тут на зямлі матэрыяльны след і нейкая духоўная прастора. Не праходзіш праз жыццё без шолаху, як цень. Ад шаўца застаецца абутак, стол — ад сталяра, ад паэта — верш. Ад нашых продкаў засталася духоўная спадчына, вялікая каштоўнасць, якую нельга страціць. І гэта галоўнае пасланне гэтай прыгожай і мудрай кнігі. Ад самай маленькай радзімы, сямейнага дома, мовы і веры плыве наша ўнутраная сіла. Дом з'яўляецца ўвасабленнем спакою, таму што ён факусуе ўсе самыя высакародныя пачуцці, жыве ў ім падтрымліваная ад пакаленняў сямейная традыцыя. Менавіта тут фармуюцца маральныя правы і высокія гуманістычныя каштоўнасці.

*Poka* гэта прастора роднай Волькі, вёскі, дзе аўтарка нарадзілася і дзе, па сутнасці, застаецца і па гэты дзень, нягледзячы на геаграфічнае рэальнае змяненне месца жыхарства. Менавіта там упершыню задзівілася і ўзрадавалася сэрца дзіцяці. Гэта адтуль памяць вынесла інтэнсіўныя водары кветак з агародчыка і пах свежага хлеба. Тут станавілася сістэма каштоўнасцей. Тут прагучалі першыя словы бацькоўскай мовы. Гэта малая Волька — увесь свет. Кожны з нас мае сваю Вольку, якую носіць глыбока ў сэрцы і пад павекамі, яна вяртаецца ў нашых снах. Гэта менавіта тое *тут*, ачалавечаная прастора, месца, якое характарызуецца значэннямі. Яно не толькі існуе ў асаблівы спосаб, але і асаблівая значыць. Яго страта заўсёды звязана са стратай каштоўнасцей і духоўнай бяздомнасцю, якая пагражае нам у дэгуманізаваным свеце.

Польскі паэт Тадэвуш Новак, пясняр сялянскага лёсу, чыя творчасць зачаравала паэтку ў маладосці, бачыць дом як запісаную кнігу. У рамане *Дванаццаць*, народным апокрыфе, выклікае вобраз Дома-Кнігі, створанай, пабудаванай і запісванай Юзафам, якога называюць Пустэльнікам. Ён тую кнігу спісвае на сцяне дома, куды паломнічаюць галоўныя героі кнігі: *Нашы бацькі казалі, што вы пішаце вялікую кнігу. (...) Кожны сялянскі дом нагадвае кнігу. Толькі што (...) не запісаную выразным словам, а выпісаную караедамі, павукамі, хатнімі жывёламі, птушкамі, што гняздзяцца ў страсе, пісьмом нашых рук, што дакранаюцца да рэчаў, нашымі зрэнкамі, што бачаць не толькі хлеб нарэзаны на стале, але і душу таго хлеба*. І аб гэтай душы, нашай і нашых хат, якія засталіся дзесьці па-за сном, запісала сваю паэтычную кнігу Зоя Сачко. Кнігу вартую прачытання, якая, без ніякіх сумневаў, кожнаму чытачу прынясе задавальненне.

Zoja Saczko, *Poka*, Stowarzyszenie Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach, Bielsk Podlaski 2018, 111 s.

1) Tadeusz Konwicki, *Zorze wieczorne*, Wydawnictwo „Alfa", Warszawa 1991, s. 24-25.

1 ☞ працяг

мы ўсе ішлі ў касцёл. Калі я на захадзе гавару пра гэта, — а чаго ісці, не было святара, не было імшы?.. — Не, трэба ісці. Бо ў тыя часы, можа, старэйшыя людзі, памятаюць, яшчэ перад Другім Ватыканскім саборам, імша трошкі інакш цэлебравалася, імшал пераносілі з аднаго боку алтара на другі... На алтары быў арнат, келіх, на алтары быў імшал, хтосьці яго пераносіў, то спявалі, званілі, на ахвяраванне, на паднясенне, і гэтак далей — усё гэта было. Былі працэсіі ў першую нядзелю, балдахін ішоў... Не было Найсвяцейшага Сакрамэнту, але ішоў, людзі спявалі еўхарыстычныя песні... Не было імшы, але быў ружанец, былі стацыі Крыжовага шляху, былі іншыя рэлігійныя песні, іншыя малітвы... Дзіця ўзрастала ў свядомасці, што нядзеля гэта Панскі Дзень. Што не ляжы дома, не сядзі дома, не бегай дзесьці па задворках, — але ідзі ў касцёл.

Гэта адно. Другое — кожны дзень бачыў сваіх бацькоў ці бабцю (дзядэк памёр калі я яшчэ малы быў), бабцю памятаю добра, — кожны дзень яны пачыналі малітвай. Потым вечарам усе, уся сям'я разам, — бацькі, бабця і я з сястрой — разам, на каленях, — малітва. Пасля малітвы — катэхізіс. Нам распавядалі штосьці, нам чыталі Евангелле, нам чыталі Святое Пісанне, штосьці аб святых. Бацькі рабілі гэта як умелі, гэта не былі якіясьці тэолагі, тры-чатыры класы школы закончылі. Але вера была. Як умелі, так і распавядалі. І кожны дзень пытанні задавалі. «Ойча наш» скажы, «Веру» скажы, галоўныя грахі скажы, галоўныя сакрамэнты... Гэта было кожны дзень.

На жаль, сёння гэтага няма. Сёння бацькі цешацца таму, што ў касцёле ў гэтак званых нядзельных школках падрыхтуюць да першай споведзі — да першай камуніі, бацькам не трэба клапаціцца пра гэта, добра іх падрыхтуюць, ёсць спецыяльная праграма, кніг сёння поўна і гэтак далей, цэлая сістэма працуе на гэта, катэхетаў свецкіх у нас больш, каледжы працуюць. Урачыстая першая камунія, усё вельмі добра. А што пасля першай камуніі? Бацькі не ідуць у касцёл, бацькі не моляцца, і нічога няма.

Аднойчы на адным спатканні цягам гэтага года да папы Францішка падышоў хлопчык і кажа: «Папа, маліся за мяне. У маёй сям'і ніхто не моліцца. Я не маю з кім маліцца. Бабця была, і я з ёю маліўся. Бабця памерла. А бацькі не моляцца». Гэта крык гэтага дзіцяці.

Гэта сёння можна перанесці і на Беларусь. Мы катэхізацыю вядзем і пасля першай камуніі, і пасля першай споведзі, але калі параўнаю, колькі прыходзіла на падрыхтоўку да першай споведзі, у разы менш становіцца потым. Бо іх бацькі не прыводзяць, не пасылаюць іх, а хто найбольшы аўтарытэт для дзіцяці? Гэта бацька, маці. І калі яны не ідуць маліцца, і дзеці не ідуць. І тут вялікая хіба гэтых бацькоў, якія гэтага не разумеюць, а потым: «Я даў свайму дзіцяці ўсё, многа даў, яшчэ школы не скончыў, а ўжо машыну мае...». Але ці ты даў Бога? Яблык не падае далёка ад яблыні. Які прыклад даюць бацькі, калі няма малітвы, дзеці не бачаць, што бацькі ходзяць у касцёл, моляцца, да споведзі, да камуніі. І дзеці не будуць так чыніць. Гэта вялікая праблема, з якой сутыкаецца сучасны свет. І сучасныя сем'і ў Беларусі маюць гэту праблему.

**«Ніва»: — Ці менавіта гэта найбольшы выклік Касцёла ў сённяшні час, калі пайшла тая атэізацыя?**

**Тадэвуш Кандрусевіч:** — Шмат ёсць выклікаў. Выхаванне моладзі, касцёлаў яшчэ мала, літаратуры мала, святароў мала, пакліканняў мала. Праблемы ёсць. Некаторыя кажуць, што калі ў чалавека штосьці баліць, то ён яшчэ жывы.

**«Ніва»: — Здаецца, пасля гэтых змрочных часоў камунізму ўжо тая хрысціянская дарога, і свабода адкрытая, што можна будаваць, маліцца, ствараць усе праявы жыцця касцёла ці царквы ў сваёй уласнай форме, як хацелася. Аднак маем вялікі адток моладзі з Беларусі і Заходняй Украіны ў эміграцыю. Праблему ведаем па-суседску — з Гарадзеншчынай. Гародня як горад пусцее ад маладых людзей, якія едуць далей, у Еўропу, трацяць сувязь са сваім, не знаходзячы месца ў гэтым заходнім свеце, бо там касцёлы закрываюць. Як такому чалавеку знайсці быць сабою, вытрымаць дарогу таксама да Бога ў такім часе, калі яго выпіхваецца з роднага гнязда, калі эканамічная і палітычная сітуацыя прымушаюць з'язджаць са свайго роднага?**



Адэльск. Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі

**Тадэвуш Кандрусевіч:** — Сапраўды, гэта вялікая праблема. Яна існуе і ў Польшчы, у Ірландыі, у Англіі колькі працуе, з Літвы колькі выехала... Людзі хочуць дабра. І нельга забараніць чалавеку магчымасці рэалізаваць свае мары. Я тут быў у шпіталі. Мяне лекары з Мінска накіравалі, маюць тут сваіх знаёмых, такога тыпу малаінвазійных аперацый не робяць у нас. Але што я тут, на гэтым аддзеле нейрахірургіі — двух нейрахірургаў з Гродна, і анестэзіёлаг з Гродна. Можа, ёсць іх яшчэ больш, але столькі з тых, з якімі мне трэба было быць у кантакце, бачыцца, прыходзілі перад аперацыяй. Кажуць, поўна такіх ёсць, і там, і там. Чалавек хоча жыць — выбірае там дзе лепей. Ёсць працоўная эміграцыя. Трэба ствараць адпаведныя ўмовы, каб чалавек заставаўся, тут і патрыятызм — чаго сваю радзіму пакідаць? Можа, лягчэй будзе. Не заўсёды гэта лёгка.

Я, калі ў Маскве служыў, запрасілі мяне аднойчы цэлебраваць святую імшу ў Германіі для гэтак званых расійскіх немцаў. Іх вельмі многа выехала з Казахстана, з Таджыкістана, з Расіі. Старэйшыя людзі казалі: «Мы не знаходзім сябе тут. У нас зусім іншы менталітэт. Касцёлы велізарныя, прыгожыя, усё багата, але няма таго духу, да якога мы прывыклі, калі мы ў зямлянках маліліся ў тым Казахстане, у нейкай капліцы... Там інакш было».

Калі хто едзе, трэба памятаць, каб не страціць сваёй хрысціянскай ідэнтычнасці, каб не страціць сувязі з касцёлам. Многа залежыць ад самога чалавека. Можа, трэба змяніць таксама і свае адносіны, таму што іншая культура, іншы менталітэт, але не баяцца застацца верным свайму хрысціянскаму пакліканню. Не баяцца плысці супраць цячэння! Па цячэнні плысці лёгка, але куды рака занясе? У акіян, мора? Хто выплыве адтуль? Ніхто не выплыве. У акіян грахоўны трапіць чалавек, і не выплыве. Але людзі едуць, чалавек выбірае, дзе хоча. Але гэта вялікая трагедыя, вялікая трагедыя таксама і нашай бацькаўшчыны.

Пару дзён там я чытаў у інтэрнэце, дзе былі апублікаваны даныя аб гэтым, што за мінулы год у Беларусі памерла на 26 тысяч больш людзей, чым нарадзілася Гэта добры раённы горад! І якая будучыня заўтра? У Палесціне сёння 45 працэнтаў насельніцтва гэта дзеці. Гэта дабрабыт, калі не ўлічваць маральных нормаў, толькі імкнуцца да матэрыяльнага дабрабыту (я не за тое, каб чалавек жыў блага). Касцёл бароніць сацыяльнае вучэнне, сацыяльную справядлівасць, каб усё было справядліва ў людзей. Бог стварыў усіх аднолькавымі, а, на жаль, не ўсе аднолькава добра жывуць. Аднак імкненне да матэрыяльных каштоўнасцей не павінна засланяць Бога. На жаль, яно часта становіцца богам.

**«Ніва»: — Мы размаўляем у перадсвяточны час Вялікага посту. З якой надзеяй чакаем гэтых Свят, Уваскрэсення Гасподняга — з якой надзеяй Касцёл, з якой надзеяй вернікі — каталікі ў Беларусі?**

**Тадэвуш Кандрусевіч:** — Кожнае свята гэта свята. Яно павінна нас яшчэ мацней звязваць з Богам, яшчэ мацней набліжаць да Бога. Галоўнае свята ўсяго хрысціянства гэта Пасха, свята Уваскрэсення, калі мы ўспамінаем перамогу Езуса Хрыстуса над смерцю, над грахом. Ён сваім уваскрэсеннем учыніў такую рэвалюцыю, якой ніхто не мог зрабіць. І нам трэба быць верным гэтай, скажам, рэвалюцыі (слова можа нам не вельмі падабаецца, бо ўспамінаем іншую рэвалюцыю, якая стала трагедыяй для чалавецтва асабліва на Усходзе), быць верным гэтай рэвалюцыі ў духоўным сэнсе, гэтай праўдзе Уваскрэсення. Праўда, Уваскрэсенне гэта падмурак нашай веры. Без падмурка мы не збудуем дома. Гэта будзе дом збудаваны на пяску. А Хрыстус кажа будаваць дом на скале. Дом збудаваны на пяску пастаіць трохі, а потым разваліцца. Таксама чалавек, калі будуе сваё жыццё без гэтага маральнага фундамента, жыве толькі сённяшнім днём, жыве — асабліва моладзь — у віртуальным свеце; і хто сёння выхоўвае моладзь? Сям'я? — Не. Школа? — Не. Універсітэт? — Не. Фейсбук. Інтэрнэт. І што ён там бачыць? Сярэднестатыстычны малады чалавек у Еўропе штодзень робіць ад 120 да 140 здымкаў сэлфі. І што ён з імі заўтра зробіць? Парассылае, колькі лайкаў было паглядзіць, пасмяяліся, і ўсё гэта забылася. Гэта адно з «мейнстрымаў» жыцця чалавека. Гэтак не павінна быць. Павінна быць духоўная база.

Гэтае свята не павінна быць толькі святам успаміну таго, што адбылося дзве тысячы таму на Святой Зямлі, у Іерусаліме, калі Хрыстус уваскрос, але яно павінна стаць часткай нашага штодзённага жыцця, часткай жыцця кожнага хрысціяніна. Ён павінен кожны дзень уваскрасаць да новага жыцця. Тое, што было злым учора, сёння не павінна паўтарацца. А калі здарылася, што ўпаў, што згрэшыў, бяры прыклад з марнатраўнага сына, — устану і пайду, пайду да майго Айца, Ён мяне не адкіне, Ён мяне прыме. І таму наша надзея, надзея і Касцёла, і нашых вернікаў, у тым, што з Божаю ласкаю можам учыніць усё — з Божаю ласкаю зможам падняцца, можам сказаць «вяртаюся ў дом», «вяртаюся да майго Айца, які мяне прыме, калі кінуся ў абдымкі Яго міласэрнасці, каб уваскрэснуць яшчэ раз, і каб жыць гэтай праўдай уваскрэсення, быць сведкамі гэтай праўды, Уваскрэсення. Бо гэта сведчанне сёння патрэбнае.

Яшчэ папа Павел VI казаў, што сучасны чалавек больш верыць сведкам, чым настаўнікам. Усе вучаць. Але сведчанне патрэбна. Не трэба быць фарысеямі. Тады не з'яўляюся чалавекам Уваскрэсення. Тады, калі буду фарысеем — тады буду гаварыць адно, а сам буду чыніць іншае. Я павінен быць хрысціянінам не толькі ў касцёле, у царкве, склаксці ручкі: «Пане Божа, які Ты добры, і я добры», а выйду за парог касцёла і жыву быццам Бога зусім няма. Таму хацелася б пажадаць усім нашым вернікам радасных, поўных ласкі і супакою Уваскрослага Пана, каб гэтае радаснае Аллелюя было выпаўнена духоўным зместам і вяло да шчасця кожнага чалавека, а таксама супакою і шчасця нашай Бацькаўшчыны.

**«Ніва»: — Калі глядзім на паломніцтвы і сустрэчы з папамі Янам Паўлам II ці Францішкам, бачыцца аграмадная колькасць вернікаў з Беларусі. Яны адрозніваюцца сваёй радасцю, сваімі бел-чырвона-белымі сцягамі — што, вось, едуць з Беларусі. Паўтараюць: «Мы чакаем папы ў Беларусі!» І ў чаканні Вялікадня, у чаканні перамогі дабра над злом, у чаканні, што прыйдзе гэты дзень радасны, святочны, Велікодны. Ці такое свята для ўсіх хрысціян у Беларусі неўзабаве надыдзе — сустрэча с папам?**

**Тадэвуш Кандрусевіч:** — Гэта толькі Бог можа сказаць. Але калі я першы раз спаткаў папу Францішка (я спаткаў яго яшчэ раней, калі быў ён кардыналам арцыбіскупам Буэнас-Айрэса, бо калі я служыў у Расіі, адзін з маіх святароў, які працаваў у Ніжнім Ноўгарадзе, быў менавіта адтуль і нам трэба было падпісаць дамову), я сказаў, што «Бог любіць тройцу» — «Як гэта трэба разумець?» — кажа. Ну, чакалі Яна Паўла II — не прыехаў, чакалі Бэнэдыкта — не прыехаў. Застаяцеся — вы». Ён вельмі хоча прыехаць. Сустракаючыся з ім, размаўляем на гэту тэму, ну але ведаем абставіны, якія не дазваляюць яму яшчэ прыехаць. А гэта было б патрэбна, як нашаму Касцёлу, так і нашым вернікам — блізкасць свайго духоўнага лідара. Гэта было б важна і для іншых канфесій, і для нашага грамадства.

**— Дзякуем за размову і жадаем хуткага вяртання да здароў'я.**

Размаўлялі
**Яўген ВАПА і Юрка ЛЯЧЫНСКІ**

# Чаромхаўская рукадзельніца

Ева Багданюк з Чаромхі-Станцыі захапляецца рукадзеллем. Кручком вяжа сурвэткі, фіранкі, абрусы. Гэта яе хобі. Вязаннем займаецца з дзявоцтва. Памятаю са сваёй «кавалеркі», што і кузаўскія дзяўчаты займаліся дамашнім рукадзеллем. На вячорках хлопцы ў карты гулялі, а дзяўчаты вышывалі ды вязалі сурвэткі. На прутках вязалі таксама світары з воўны.

Зараз у Кузаве ніхто рукадзеллем не цікавіцца. Традыцыя саматужніцтва па сёлах адышла з пакаленнямі. Адно ў Гмінным асяродку культуры на выстаўках можна яшчэ паглядзець вясковае дамашняе рукадзелле, якім займаліся нашы мамы з бабулямі.

Працы Евы Багданюк упершыню я пабачыў на інтэрнэт-старонцы на фейсбуку ў палове сакавіка гэтага года. Пакольк з Евай мы добрыя знаёмыя, дык папрасіў сяброўку, каб пакрысе расказала пра свае вырабы.

— Вязанне сурвэтак гэта маё хобі, — гаворыць Ева. — З дзявоцтва люблю вязаць кручком. Кватэра мая ўпрыгожана вырабамі ўласнай работы. Маю таксама многія заказы ад знаёмых з розных гарадоў краіны. Не адмаўляюся прымаць заказы ад сяброў. Выкананне такой задачы прыяцелю адчуваю як сяброўскі абавязак, а для сябе — прыемнасць.

— Гэта вельмі карпатлівая работа. Колькі патрабуеш часу для выканання паасобных работ?





— Для выканання сурвэткі патрабую каля двух тыдняў; настольнага абруса, фіранкі для вялікага акна ў кватэры жылога корпуса спатрэбіцца месяц.

— І хапае на ўсё часу. Як спраўляешся з прафесіянальнай працай, абавязкамі хатняй гаспадыні з саматужніцкай работай. Выстаўку, здаецца, збіраешся арганізаваць. Ці не так?

— Наконт выстаўкі, — гаворыць сяброўка — не ў гэтым годзе. Хвароба перашкодзіла, прастудзілася. Лекар антыбіётыкі двайныя запісаў. Грып заставіў у ложак легчы. А наконт працы і абавязкаў, што ж можна прыбавіць... Цяжка прыходзіцца, — з сумам канстатуе Ева. — Часам, вярнуўшыся з работы, чалавек ні аб чым не думае, адно каб прылегчы ў ложак і адпачыць. Іншым разам да поўначы займаешся хатнімі абавязкамі і стомы не адчуваеш. Такая ўжо мая натура...

Уладзімір СІДАРУК

# У нас традыцыя не згіне

4 красавіка гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета жыхары Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Лешукоў і Сушчага Барка ўпрыгожвалі кветкамі вярбовыя галінкі, малявалі яйкі ды спяклі „буславыя лапкі".

Курыныя яйкі і выдзіманкі найперш малявалі ў розныя ўзоры растопленым воскам, а затым фарбавалі. Як шмат гадоў так і сёлета гэтаму вучыла ўсіх ахвотных Марыя Рэент са стараляўкоўска-лешуцкіх калёній.





„Буславыя лапкі" фармавалі з дражджавога крыху прысалоджанага цеста і затым пяклі пад наглядам Лідзіі Харкевіч і Альжбеты Кунцэвіч. Дзеці з нецярпеннем чакалі таго моманту, калі яны спякуцца і іх дастануць з печы. Гэтых малых булачак-лапак хапіла для ўсіх. Елі іх са смакам ды папівалі фруктовым кампотам.

Упрыгожаныя кветачкамі з рознакаляровай паперы і вузенькімі каляровымі стужкамі вербачкі жанчыны ўзялі дадому, каб у Вербніцу асвяціць іх у царкве. Як найлепш упрыгожваць г. зв. велікодныя пальмы вучыла, між іншым, Крыстына Паскробка.

Традыцыйна ўжо мерапрыемства арганізавалі лешуцкае Таварыства „Ятрышнік" („Storczyk") і стараляўкоўская святліца.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА




Вывучэнне моў — заўсёды карысны занятак. Яно дазваляе не толькі набыць новыя веды, але і развіць свае разумовыя здольнасці, пашыраючы ўласны слоўнікавы запас. Гэта тычыцца як замежных моў, так і роднай. Нездарма, амаль кожная краіна мае нейкую ўстанову, што займаецца мовазнаўствам. Ёсць такая і ў Беларусі, а дакладней, у яе Нацыянальнай акадэміі. Гэта Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа, сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://iml.basnet.by.

Сайт Інстытута даволі сціплы, але змяшчае досыць карыснай і цікавай інфармацыі, дзякуючы якой кожны госць сайта здолее скласці ўяўленне пра дадзеную навуковую ўстанову. А ёй, дарэчы, сёлета спаўняецца 90 гадоў. Інстытут мовазнаўства быў заснаваны 2 лістапада 1929 года, пра што паведамляецца ў падрубрыцы „Гісторыя інстытута" рубрыкі „Інстытут". Тады, на пасяджэнні Прэзідыума Беларускай акадэміі навук было вырашана „арганізаваць Інстытут мовазнаўства, у якім аб'яднаць усе ўстановы, якія займаюцца вывучэннем беларускай мовы, уключаючы і Інстытут навуковай мовы як тэрміналагічную камісію".

За 90 гадоў свайго існавання Інстытут мовазнаўства спазнаў розныя рэарганізацыі і перабудовы. Так, у лістападзе 2007 году Прэзідыум Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі аб'яднаў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы ў Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. У 2012 годзе Інстытут мовы і літаратуры аб'ядналі з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы ў Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. У лістападзе 2015 года Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа быў адноўлены як філія Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. Дарэчы, пра падзеі 2012 і пазнейшых гадоў у „гістарычнай" падрубрыцы няма нічога, бо яна не змянялася ад 2010 года.

Разам з тым навінныя паведамленні з'яўляюцца на сайце даволі часта, і апошняе датавана сёлетнім красавіком. У кожнай навінцы паведамляюцца цікавыя звесткі аб дзейнасці Інстытута і яго вучоных. Напрыклад, пра сустрэчу беларускіх мовазнаўцаў з эстонскімі калегамі ці пра візіт супрацоўніц Інстытута ў Беларускую бібліятэку і музей імя Францішка Скарыны ў Лондане.

З пункту гледжання распаўсюду беларускай мовы ў Беларусі, дзе руская мова мае значна больш трывалыя пазіцыі, цікавым бачыцца тэкст пра круглы стол на тэму беларуска-рускага дзяржаўнага двухмоўя ў медыцынскай навуцы. Аказваецца, што паводле выкладчыкаў медыцынскіх навучальных устаноў, і яны, і іх студэнты зацікаўлены ў пашырэнні функцыянавання беларускай мовы як у адукацыйным працэсе, так і ў прафесійнай дзейнасці.

У выніку працы круглага стала былі прыняты рэкамендацыі, у прыватнасці, да міністэрства аховы здароўя Беларусі. Так, было прапанавана прыняць захады па забеспячэнні ўсіх лекавых прэпаратаў, якія распаўсюджваюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, неабходнай інфармацыяй на дзвюх дзяржаўных мовах, а таксама актывізаваць дзейнасць па падрыхтоўцы спецыяльных тэрміналагічных слоўнікаў беларускай медыцынскай тэрміналогіі розных тыпаў.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара



## 110 гадоў з дня нараджэння

# Лазара Рана

Яўрэйска-беларускі мастак, скульптар Лазар Ран нарадзіўся 18 красавіка 1909 г. у горадзе Дзвінск (цяпер на тэрыторыі Латвіі). Калі Лазару споўнілася шэсць гадоў, сям'я пераехала ў Полацк. Мастацкую адукацыю атрымаў у Віцебскай мастацкай вучэльні (1928-1932). Пасля заканчэння вучобы Ран працаваў ілюстратарам кніг у Дзяржвыдавецтве БССР у Мінску. З канца 1930-х гг. паспяхова ўдзельнічаў у мастацкіх выставах, найперш як жывапісец. Жанрам і тэматыкай яго прац былі партрэты, гістарычныя кампазіцыі ў рэалістычным кірунку. Творам уласцівы эмацыйнасць, праўдзівасць, псіхалагізм.

У лістападзе 1932 г. Рана арыштавалі за антысавецкую агітацыю, пазней засудзілі. Некалькі месяцаў правёў за кратамі, але быў вызвалены Пракуратурай БССР. Пасля выхаду на волю з'ехаў у Маскву, быў змушаны заставацца там да вызвалення Беларусі ад фашыстаў у 1944 г. У час вайны мастак маляваў партрэты партызанскіх камандзіраў, падпольшчыкаў. Вядомы яго жывапісныя партрэты і сюжэтна-тэматычныя карціны.

Вярнуўшыся ў 1944 г. у Мінск, Лазар Ран даведаўся пра гібель у гета сваёй сям'і, усіх родных, што засталіся ў горадзе. Гэтая падзея вызначыла тэму ўсёй далейшай творчасці мастака. У сярэдзіне 1950-х гг. ён пачаў працаваць над серыяй афортаў „Мінскае гета", якая не мае аналагаў. Цягам 20 гадоў працаваў над гэтым цыклам, часам неаднаразова вяртаючыся да адной і той жа кампазіцыі. Гэты цыкл — адзін з самых пранізлівых твораў, прысвечаных трагедыі Халакосту. У серыю ўвайшло 17 лістоў. Серыя афортаў Рана доўгія гады не экспанавалася на выставах. У 1979 г. пры пасрэдніцтве нямецкай мастачкі Ліі Грундзік альбом гравюр закупіла Дрэздэнская карцінная галерэя. Толькі ў 1991 г. афорты былі паказаны ў Беларусі на выставе ў Палацы культуры тонкасуконнага камбіната. Тэму Мінскага гета мастак працягнуў іншымі творамі ў літаграфіі, скульптуры, жывапісе. Карыстаўся надпісамі на мове ідыш, якія даносяць да гледача галоўныя думкі і пачуцці мастака.

Мастак стварыў серыі афортаў, прысвечаныя беларускай культуры: „Мой Родны Кут, як ты мне мілы..." (1958-1960), „Якуб Колас у Наваградку" (1960), „Па Родных мясцінах" (паводле твораў Янкі Купалы, 1970), „Сустрэча ў Вільні" (1980), „Янка Купала і Цётка каля Чорнага возера" (1983), „Беларуская архітэктура". Лазар Ран таксама вядомы як жывапісец і скульптар. У яго бронзавых рэльефах „Загінулым у гета прысвячаецца", „Музыка", „Памяці Януша Корчака" выкарыстаны сімвалы яўрэйскіх святыняў і тэксты на мове ідыш. Бронзавая скульптура задумвалася мастаком як помнік загінулым у Мінскім гета. Мастак у творчасці цэлы час вяртаўся да трагедыі свайго народа.

Ран таксама ілюстраваў кнігі. У цыкл літаграфій „Яўрэйскія пісьменнікі" ўвайшлі партрэты вядомых пісьменнікаў і паэтаў, якія жылі ў розныя эпохі і зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё яўрэйскай культуры. Больш за 20 партрэтаў усёй серыі размешчаны на традыцыйных разьбяных надмагільных камянях — мацэвах. У лістападзе 2009 г. у Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы мастацтваў адкрылася выстава „Расстраляная літаратура". Яна была арганізавана бібліятэкай супольна з Музеем гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі (Мінск). У экспазіцыі было прадстаўлена 16 арыгінальных графічных работ.

Памёр Лазар Ран 5 жніўня 1988 года ў Мінску. Творы мастака захоўваюцца пераважна ў прыватных калекцыях Беларусі, ЗША, а таксама ў сям'і сына мастака.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Аб чаромхаўскай культуры (6)

У чыгуначным клубе «Калеяж» бурліла жыццё. Апрача культурных мерапрыемстваў арганізаваных з нагоды дзяржаўных гадавін, мясцовыя мастацкія калектывы праводзілі рэпетыцыі. Працавала бібліятэка з чытальняй. Паколькі гміна не карысталася святліцай у пасёлку, дык гмінныя імпрэзы арганізаваліся ў «Калеяжу». Так было і з бібліятэкай. Лічылася яна гміннай, але кнігазбор быў супольны — чыгуначны змешаны з гмінным. У бібліятэцы працавалі дзве вопытныя бібліятэкаркі — Марыся Саласцюк і Зіна Маркевіч. Чытачу заўжды служылі інфармацыяй аб кніжках і аўтарах. У сямідзясятых гадах бібліятэка лічыла восем тысяч кніжак, у тым ліку 374 беларускія і 246 на рускай мове. Кнігазборам карысталася 404 пастаянных чытачоў. Дзесяць асоб цікавілася беларускімі кніжкамі. Гэта былі вучні гайнаўскага і бельскага ліцэяў з беларускай мовай навучання. Найбольшым поспехам лічыліся раманы і аповесці пра вайну. Чыталі іх дарослыя і моладзь. Узрост чытачоў як і прафесія былі разнароднымі. Чыталі вучні пачатковай школы, чыгуначнікі, настаўнікі, земляробы. Бібліятэка абслугоўвала тэрыторыю ўсяе гміны. У сёлах працавала дзесяць бібліятэчных пунктаў. У Чаромху былі далучаны чыгуначныя станцыі Гайнаўка і Нараўка. Аднак абмен кніжкамі ў гэтых пунктах быў недастатковы беручы пад увагу далёкую адлегласць ад бібліятэкі. Найбольш актыўнымі былі бібліятэчныя пункты ў сяле Чаромха з вядучай Надзяй Дудэль, у Ставішчах з А. Кашмалюком, у Зубачах з Зінай Максімюк ды ў Кузаве з Марысяй Раманчук. Першае месца ў чытанні займаў Тамаш Дубковіч. Працаваў ён сторажам у пачатковай школе. У год прачытваў сто кніжак. Як падаўся на пенсію, перасяліўся ў Гайнаўку. Там стаў чытачом павятовай бібліятэкі. З моладзі найбольш чытаў Лявон Шыкула. Працаваў у Гайнаўцы ў вагонным дэпо. З жанчын выдатніцай была 67-гадовая Сцепаніда Зіневіч з Чаромхі-Станцыі і Надзя Каральчук з чаромхаўскай мытнай канторы, якая працавала прыбіральшчыцай. У бібліятэцы змяшчалася чытальня. Можна было тут паглядзець тэлевізію, пагуляць у шахматы ці пачытаць газеты. Сярод шматлікіх часопісаў была і «Ніва». Вечарамі чытальню наведвала моладзь і дарослыя. Прыемна было зайсці сюды і культурна правесці свабодны час.

З ходам гадоў многае перамянілася ў гміннай бібліятэцы. Старэйшыя бібліятэкаркі выйшлі на пенсію. У 1984 годзе пачала працаваць Люцына Высоцкая. Па прафесіі яна была бібліятэкаркай. Тадышні кнігазбор налічваў шаснаццаць тысяч асобнікаў. Аддзел беларускай літаратуры лічыў сто тамоў. Да 531 павялічыўся стан чытачоў. Працавалі два філіяльныя пункты. У Апацы пункт вяла Марыся Саўчук. Абмен кніжкамі адбываўся штоквартальна. Чытаннем займалася 21 чытачоў. У Апацы найбольш любілі чытаць ваенныя кніжкі. Другі пункт змяшчаўся ў мясцовай насычальні. Абменам займалася Галіна Рожук. Чаромхаўскія жанчыны захапляліся любоўнымі раманамі, а мужчыны — фантастыкай і дэтэктывамі. Найбольш актыўнымі чытачамі ў Чаромсе былі Сафія Тарасюк, Юрка Заборскі і Тамаш Сасноўскі. Праблемай загадчыцы Люцыны Высоцкай быў недахоп грошай на закупку кніжак. Гміна са сціплага бюджэту выдзяляла невялікія сумы, бо цана кніжак была надта вялікая. Да таго ж кнігазбор, які ў спадчыне застаўся па чыгуначніках, быў састарэлы, прачытаны чытачамі.

Не зважаючы на ўсе праблемы і цяжкасці, у чыгуначным пасёлку не сціхалі музыка і песня. На пляцоўцы побач Гміннага асяродка культуры былі арганізаваны шматлікія імпрэзы. Але аб гэтым у чарговым допісе.

(працяг будзе)

❖ **Уладзімір СІДАРУК**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Віктар Швед

## Галене Глагоўскай

Дарагая Галена,
Волат цяжкае працы!
Ты з таго пакалення,
Што патрапіць змагацца

За памяць і долю
Роднага народа,
Якога да болю
Кахаеш заўсёды.

Кнігалюб, лавец ведаў
І ацэнак талковых,
Яны сталіся следам
Тваіх прац навуковых.

У прафесуры парадках,
Ты сваім дасягненнем,
Дзелішся на занятках
З маладым пакаленнем.

Дарослацсь сапраўдная –
Шасцідзесяцігоддзе!
Будзеш заўжды слаўная
У нашым народзе!

Беласток, 8 красавіка 2019 года

# Адгаданка



**1.** заява аб нязгодзе, рашучае пярэчанне, **2.** полацкая княгіня, дачка Рагвалода, **3.** месца для гандлю, **4.** свіран, якіх, магбыць, шмат у Клецку, **5.** каштарыс даходаў і расходаў дзяржавы, **6.** псеўданім Уладзіміра Ульянава, **7.** між снеданнем і вячэрай, **8.** вадкасць з вадарода і кіслорода, **9.** востры край сякучай прылады, **10.** ураджэнец той самай мясцовасці, краіны, **11.** водная прастора між кантынентамі, **12.** слуп на судне для парусоў, **13.** кітайская грашовая адзінка, **14.** бяда, няшчасце, **15.** напрыклад Манблан, Казбек, **16.** шосты гук музычнай гамы, **17.** калгасніца з вядром малака, **18.** ваяводскі горад у якім... блін, **19.** Вячаслаў, у пачатку 1990-х прэм'ер-міністр Беларусі, **20.** дзяржава з Дэлі, **21.** любіць узяць, **22.** касцявы пояс чалавека, які з'яўляецца апорай пазваночніка, **23.** казачнае страшыдла з тулавам змяі, **24.** лік, які „плавае" ў галоўнай палескай рацэ, **25.** цыліндрычная пасудзіна з клёпак, **26.** спартыўная гульня авальным мячом, **27.** прамежак часу ў прадпрыемстве, у якім працуе адна група людзей, **28.** мангольская пустыня, **29.** вялікая палеская рака.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 12 нумара**

Мароз, цаля, мяса, пячнік, вада, дзежка, рогат, бярэмя, шыба, сяло, лямеш, Кіншаса.

Рашэнне: **З кім павядзешся, ад таго і набярэшся**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# 21.04 — 27.04

**(22.03. — 20.04.)** Ад 20.04. паявяцца дасканалыя нагоды да заробку. Прыліў грошай (аж да 5.05.!). Удадуцца модавыя і касметычныя эксперыменты. Вялікая папулярнасць (аж да 14.05.!), удалыя любоўныя сустрэчы. Клапатліва зоймешся тымі, каму патрэбна дапамога. Задбай аб душу і цела.

**(21.04. — 21.05.)** 20-24.04. незвычайныя прыгоды і атракцыёны. Маеш шанцы штосьць змяніць і паправіць. Адкрыюцца дзверы, якія для цябе былі дасюль зачынены. Меркурый пакажа, дзе ёсць грошы (аж да 20.05.!). Набярэшся бляску, Сонца дадасць табе красы і сілы (аж да 20.05.!). Час на жыццёвую рэвалюцыю!

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш схільны да сцэн зайздрасці. Правер сваё аўто. Пазнаеш чужыя сакрэты, дарадзіш, і сам на гэтым скарыстаеш. Знойдзеш шчасце — Венера спрыяе любоўным прыгодам (аж да 15.05.) Аднаўляй старыя знаёмствы і наладжвай новыя. Смела запісвайся на курсы, змагайся за датацыі. Прыліў грошай маеш аж да 5 мая!

**(23.06. — 23.07.)** Твая кар'ера рэзка прыспешыць. Адкрыеш, дзе б'е крыніца экстрагрошай і ўзнагарод. Старайся, развівайся, вучыся, узмацняй сваю пазіцыю. Шыкуецца некалькі хвалюючых урачыстасцей. Будзеш амбітны і прадпрымальны. Збяры задумы і сілы і пакажы ворагам або канкурэнцыі дзе іх месца. Уся вясна будзе працавітая і інтэнсіўная, ды хопіць табе сілы і будзеш мець падтрымку высокапастаўленых людзей (летам ад гэтага будзеш чэрпаць прыбыткі). Прыліў грошай аж да 20.05.! Але зрабі медабследаванні, высыпайся, медытуй.

**(24.07. — 23.08.)** 20-24.04. адкрыеш мэту, для якой варта жыць. Можаш здабыць чыёсьці сэрца. Купі сабе штосьці для ўласнай прыемнасці. Знойдзеш шчасце — аж да 15.05.! Паявіцца новая прапанова або шанц здабыцця добра платнай пасады. Лаві гарачыя нагоды! Будзеш вельмі хутка вучыцца, прыстасоўваца да новых умоў. Прыспяшэнне кар'еры аж да 5.05.

**(24.08. — 23.09.)** З 25.04. магчымыя напады кепскага настрою. На працы выконвай план мінімум. Затое дома можаш дазволіць на рэвалюцыю. Выйдзеш з фінансавай ямкі, але не бярыся за справы, якія прэзентуюцца цудоўна, але могуць цябе выматаць з сілы. Прыліў грошай аж да 20.05.

**(24.09. — 23.10.)** Не пераймайся расстаннем, зацікавіцца табой хтосьці іншы. Зменяцца твае прыярытэты. Будзеш дбаць аб радню і сяброў як ніколі дагэтуль. Але не бяры на сябе занадта. Сінглы могуць закахацца! Венера спрыяе каханню аж да 14.05.! Кар'ера будзе развівацца нават без твайго заангажавання. Наладзіш важныя пакты і разумна заінвестуеш. На працы не дапускай да недаробак. Большыя грошы будзеш зарабляць аж да 5.05.

**(24.10. — 22.11.)** Не шукай сабе праблем. Усё добра пойдзе ў пары. З 24.04. не згубі чагосьці важнага, на чым табе вельмі залежыць. Але будзе досыць асоб, якія цябе выкарыстоўваюць. Вялікае шчасце ў пачуццях аж да 20.05.! Спрыяе табе лёс. Не праваронь ніякай нагоды, каб парабіць парадкі ў справах ва ўстановах і судах. Правер важныя паперы. Шчодры Юпітар паможа табе пры кампенсацыях. Прыліў грошай аж да 20.05.

**(23.11. — 22.12.)** З 24.04. чыесьці паводзіны могуць вывесці цябе з раўнавагі. Стральцам з ІІ дэкады можа прытрапіцца расстанне, але не будзеш доўга шкадаваць. Магчымая новая праца, звязаная з падарожжамі; варта ў сябе заінвеставаць. Венера разагрэе твае жарсці аж да 14.05. Маеш шанц на вялікі поспех і многа зарабіць. Шанцы на новую пасаду, паправу ўмоў на працы. Вучыся моў, здабывай сертыфікаты. Прыліў грошай аж да 5.05. Набярэш бляску ў выглядзе (да 14.05.).

**(23.12. — 20.01.)** Можаш аддыхацца. Задбай аб дыету, выспіся. Асабліва добры час для праводзення з сям'ёй. Лічы грошы, аплачвай рахункі, аддавай даўгі, купляй з калькулятарам. На працы можаш адарвацца ад тых асоб, хто цябе тармазіў. Шукай разумных дарадчыкаў і памочнікаў. Работа, якая прынясе табе прэстыж і грошы (аж да 20.05.)

**(21.01. — 19.02.)** Спрыяе табе шчасце ў каханні. Удала ў бізнесе. Прыйдуць змены, якіх ты чакаў. Можаш рабіць штосьці больш файнае і лепш платнае (больш грошай аж да 5.05.). Будзеш жыць актыўней, паставіш на развой сваіх талентаў і ўмеласцей. Будзеш мацнейшы і прыгожы аж да 5.05. Цёпла апранайся.

**(20.02. — 21.03.)** З 24.04. больш стрэсу. Але ўсё будзе працсейшае, хопіць грошай на пакупкі, падмацаванне здароўя, рамонт дома. Памятай аб каханні! Салодкія хвіліны ў пары. У прафесіі адны поспехі, паправа ў фінансах. Дараджвай і памагай іншым. Пашчасціцца табе і ў дробных, і ў сур'ёзных справах.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# Сіцылія

## — краіна кактусаў і здагадак





Сіцылійцы як агню пазбягаюць слова «мафія» і гэта не толькі абачлівасць, каб не наклікаць якога ліха. Гэта пякучы сорам і адначасова ўзнёслы гонар. Тэма табу, якой сіцылійцы ніколі не ўзнімуць у прыгоднай кампаніі. Тыя, што прыналежаць да мафіі, называюць свой саюз ДРУЖБАЙ, а самі сябе людзьмі гонару. Усё іншае хаваецца пад паверхняй здагадак, тэатральных позіркаў і жэстаў. Верагодна таму сіцылійцаў часта называюць скрытым, негаваркім народам...

Падумаеце, яны ж італьянцы! Якая маўклівасць, якая негаварлівасць, якая скрытасць?

Справа ў тым, што многія жыхары выспы лічаць сябе асобным народам. Іх дыялект не надта зразумелы для жыхароў цэнтральных і паўночных рэгіёнаў Італіі. Наш досвед што крок паказваў, што італьянскую літаратурную мову тут успрымаюць з такой самай дыстанцыяй як англійскую. Пры тым у іх больш эмпатыі для сваіх, хаця між паасобнымі правінцыямі шмат недалюблівання і варожасці. Катанцы, прыкладова, не любяць жыхароў Палерма.

Цягам кароткага, але інтэнсіўнага вясновага падарожжа па паўноча-ўсходнім узбярэжжы вострава ў мяне ўзнікла адно назіранне — чым больш бачу і чую, тым менш разумею сіцылійскую рэчаіснасць. Яна адразу перакідалася ў нешта загадкавае, неадназначнае, недаказанае. Але на след мафіі трапіла я адразу!

* * *

Гэта было пры цэнтральным чыгуначным вакзале ў Катаніі. У аўтобусе, якім я дабіралася з прыгожай кампаніяй з аэрапорта ў горад, якраз выпала змена шафёраў. Шафёры ва ўніформах пашытых на меру (вядома, пад гальштукам), пакуль памяняліся месцам, развіталіся ў пацалунках. Праўда, такое не павінна здзіўляць асоб з Падляшша. Без такіх прывітанняў не абыдзецца ніводзін наш парафіяльны фэст, сямейная гасціна, адведкі. Яшчэ такі жэст робім для добрых, давераных сяброў, каб прадэманстраваць кроўнае або ідэалагічнае сваяцтва, крайні давер, бясспрэчную сімпатыю. І важна, каб не абносіцца з такім прывітаннем надта часта!

Таму сіцылійскае развітанне з падвойным мужчынскім пацалункам у час працоўнай змены прамовіла як сіцылійкі вокліч: *вітайце ў нашай хаце!*

Той, хто прылятае ў Катанію, яшчэ раней бачыць больш пагрозлівае прывітанне. Гэта заснежаны стажок дзейснага вулкана. Трыстатысячны горад раскінуўся ў падножжа Этны, самага вялікага і дзейснага вулкана Еўропы. Частка будынкаў, вуліц і праспектаў збудаваныя са скал выкінутых з глыбі зямлі вулканам. Ідучы па базальтавых вулачках, я часта і густа ўспамінала палескія Пераброды і Нобель, з такімі ж базальтавымі дарогамі. Хоць на Сіцыліі базальтавыя ходнікі і вулачкі прыгожа пракладзены, стаптаныя нагамі, капытамі і коламі, коўзкія і прыемныя для хады...

Мясцовыя людзі, хоць негаваркія, надта паслужлівыя. Калі адна прадаўшчыца садавіны не ведала як паясніць дарогу ў гастэль, яна пакінула краму і завяла на месца, пад самыя дзверы.

— Вы *дойчланд?* — спытала яна на развітанне.

Якім цудам наша падляшская гаворка здалася ёй нямецкай мовай — забіце, не разгадаю. Можа таму, што іх краіну надта ўпадабалі турысты з Нямеччыны? Сапраўды, увесь час мы сустракалі табуны нямецкамоўных экскурсій.

* * *

Мне найбольш хацелася пабачыць чорнага слана, міфічнага ахоўніка Катаніі, які сцеражэ горад перад выбухам вулкана. Афіцыйны яго назоў: *Fontana dell'Elefante.* Слана з вулканічнага каменя заказаў катанскі арыстакрат Геліядор, дык помнік завуць яшчэ «u Litoru». Легенда гаворыць, што першапачаткова слон быў пазбаўлены атрыбутаў мужчынскасці і гэта моцна раззлавала *catanesi*, то-бок мужчынскі пол горада. Мастак, пад пагрозай патраты жыцця, быў вымушаны ў спеху выправіць няслаўныя недахопы.

Папраўдзе, культ слана на Сіцыліі старажытны. Ён спасылаецца на мамантаў, якія вадзіліся на востраве ў гады неаліту. Ад іх пайшлі аповеды пра цыклопаў, міфічных веліканаў, якія сцерэглі перад чужынцамі востраў. На іх след натыкаемся яшчэ ў Гамеравай «Адысеі»...

Фантан са сланом літаральна загружаны сімваламі і матэрыяй. На хрыбце слана выстойвае егіпецкая стэла, а яе завяршае яшчэ хрысціянскі крыж.

Хрысціянская ахоўніца горада — святая Агафія. Дзяўчына загінула пакутніцкай смерцю пасля таго, як адкінула залёты паганца-рымляніна. Катанцы вераць у ахоўную моц вэлюму святой Агафіі, лічаць, што з яго дапамогай магчыма спыніць выбух вулкана. У гонар святой пабудаваная пышная кафедра ў стылі іспанскага барока.

Дарэчы, амаль усе архітэктурныя помнікі Катаніі ў тым жа стылі... Горад старанна адбудоўвалі цягам васямнаццатага стагоддзя. Адбудову папярэдзіла векапомная трагедыя — у 1693 годзе Катанію наведаў землятрус, а тры гады пазней эксплядзіравала Этна. Горад апынуўся пад руінамі. Катанія па сённяшні дзень лічыцца найбольш непрадказальным горадам свету.

Таму, насупраць пагрозам і ліху, яе часта аздабляе надпіс: Mellior de cinere surgo! (Узнясуся з папялішчаў яшчэ прыгажэйшай!).

Каб лягчэй глытнуць гэты складаны аптымізм, трэба прысесці ў цукерні або ў кафэшцы з фантастычным марожаным. Толькі ў Катаніі можна пакаштаваць дзівоснае пячэнне *Mini di Sant' Agata.* Гэта святы пернік у выглядзе жаночай цыцачкі з надта салодкага сыру, аздоблены чырвонай ягадкай. А мужчынскім дапаўненнем смакоцця з'яўляецца *cannoli*, хрусткая скарынка ў форме хобата з салодкай сырнай начынкай, таксама прыаздобленая ягадкамі.

У печыва старажытнае паходжанне. Яго першапачаткова спажывалі толькі ў час вяселля, каб такім канкрэтным чынам заахвоціць моладзь да эратычнай справы.

Вось такія сіцылійскія пірагі!

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны **КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960